
Гайнаўскі дух малітвы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Сапраўдны беларус → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (3080) Год LX | Беласток, 24 мая 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Школа таленавітых, працавітых і добрых беларусаў

Пачатковая школа з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім — папулярная „тройка" — 12 мая адзначыла свой юбілей — 50-годдзе. Школу, як установу, мітрапаліт Сава адзначыў медалём Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны. Бельская „тройка" ад пачатку існавання была беларускай школай, якая славілася высокім узроўнем адукацыі. Аднак пачатак беларускай школы ў Бельску трэба было б датаваць ад верасня 1944 года. У 1965 годзе аддзялілі беларускі ліцэй ад пачатковай школы ў час рэарганізацыі беларускіх школ. Пачатковая школа № 3 цяпер уваходзіць у Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча — заснавальніка і першага дырэктара. Для яго было важна, каб гэта была беларуская школа, якая б вызначалася высокім узроўнем навучання і выхоўвала развінутага ва ўсіх напрамках, культурнага чалавека. У 1949 годзе наступіла рэактывацыя школ з беларускай мовай навучання. Але толькі на пачатку 1949/1950 навучальнага года, дзякуючы стараннем бацькоў, Яраслаў Кастыцэвіч зноў заняў пасаду дырэктара беларускага ліцэя і пачатковай школы. Тадышнія матэрыяльныя ўмовы былі вельмі цяжкія. У тым самым будынку змяшчалася яшчэ пачатковая школа № 1. У 1956 годзе пачаліся старанні пра новы будынак. Запрапанаванае дырэктарам месца атрымала адабрэнне настаўнікаў, бацькоў і асветных улад. У 1959 годзе распачалася будова новай школы ў цэнтры горада, дзе да 1941 года была Мікалаеўская царква. Новы будынак здадзены быў у карыстанне ў 1961 годзе. У 1965 годзе была праведзена рэарганізацыя школы і яе падзел на незалежныя адзінкі — ліцэй і пачатковую школу.

— У школе, якая ўзнікла ў 1944 годзе, усе прадметы навучаліся на беларускай мове. У яе састаў уваходзілі пачатковая школа і гімназія. Пасля падставовая школа аддзялілася і тады знікла ў ёй навучанне беларускай мовы. Можна сказаць, што ў гістарычным сэнсе наша школа з'яўляецца нашчадкам школы з беларускай мовай навучання, што існавала пасля вайны. Аднак у мяне ёсць пастанова аб стварэнні Падставовай школы № 3 ад 1965 года і таму мы гэты год лічым пачаткам нашай школы, — тлумачыць Васіль Ляшчынскі, які быў дырэктарам «тройкі» больш за сорак гадоў.

Цяпер Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы імя Яраслава Кастыцэвіча — Пачатковая школа № 3 і Гімназія № 3 змяшчаюцца ў адным комплексе будынкаў з найбольшай у горадзе гімнастычнай залай, пабудаванай бацькамі ў грамадскім пачыне. Абедзве школы ў 2011 годзе былі дацэнены за навуковыя, мастацкія і спартыўныя дасягненні — Міністэрства нацыянальнай адукацыі і спорту прысвоіла ёй званне «Школы адкрыўцаў талентаў».

Штогод школа лідзіруе ў ваяводстве па ліку лаўрэатаў прадметных ваяводскіх конкурсаў. Ад 1975 года ПШ і Гімназія могуць ганарыцца 407 тытуламі лаўрэата прадметных конкурсаў і 272 фіналіста гэтых конкурсаў. Вучні 8 раз прымалі ўдзел у чэмпіянатах Польшчы ў лёгкай атлетыцы, здабываючы 5 медалёў. Школа 25 разоў была калектыўным майстрам спорту ў ваяводстве, а індывідуальна вучні здабылі 210 медалёў. Штогод вучні школы прымаюць удзел у шматлікіх навуковых, дэкламатарскіх, мастацкіх конкурсах і спартыўных спаборніцтвах, аглядах песні, займаючы высокія месцы на агульнапольскім, ваяводскім і гарадскім узроўнях.



Выхавала нават чэмпіёнку свету (скакунка Каміля Стэпанюк-Ліцьвінка). Дасягае найвышэйшых вынікаў у горадзе і ваяводстве па гімназічных экзаменах і экзаменах пасля шостага класа. КШзБМ з'яўляецца нераянізаванай школай. У бягучым школьным годзе вучыцца тут 696 вучняў (467 вучняў у ПШ і 229 у гімназіі) у 28 аддзелах. У Комплексе працуе 68 настаўнікаў.

— У нашай школе заўсёды быў высокі ўзровень навучання і беларушчына, — адзначае адна з першых выпускніц школы Надзея Артымовіч. — Перш за ўсё цудоўная атмасфера. Дзякуючы таксама дырэктарам — Яраславу Кастыцэвічу, Яну Суліму, Васілю Ляшчынскаму... І настаўнікам, для якіх важная беларушчына і выхаванне вучняў на добрых людзей. Так як стараўся Яраслаў Васільевіч.

— Ці гэтая традыцыя захоўваецца? — кажа настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. — Мяне прымаў на працу дырэктар Ляшчынскі, цудоўны чалавек і настаўнік, які навучыў мяне працаваць. Выкладаю беларускую мову ўжо 25 гадоў.

Юбілейныя ўрачыстасці пачаліся ў дзевяць гадзін Літургіяй у царкве святога архангела Міхаіла ў Бельску-Падляшскім. Набажэнства ўзначаліў мітрапаліт Варшавы і ўсёй Польшчы Сава ў саслужэнні ўсіх святароў Міхайлаўскага прыхода і ўсіх настаяцеляў бельскіх прыходаў, у тым ліку прыхода Нараджэння Божай Маці мітрафорнага Юрыя Багацэвіча, катэхетаў, выкладаючых у «тройцы» і двух дыяканаў. Спяваў хор прыхода Нараджэння Багародзіцы пад дырэкцыяй Анны Фіты. У набажэнстве прысутнічалі мясцовыя ўлады, дырэктары школ, настаўнікі, вучні, бацькі, выпускнікі. На канец быў адслужаны малебен за вучняў і настаўнікаў.

У святкаванні ў агромнай гімнастычнай зале, аздобленай бела-чырвонымі колерамі, прынялі ўдзел духавенства, дыпламаты, прадстаўнікі ўлад і самаўрада, сябры школы, выпускнікі, настаўнікі, бацькі і вельмі ветлівыя дзеткі, якія на канец як таленавітыя школьныя вакальныя і танцавальныя калектывы «Вяночак», «Вясёлка», «Світанак», «Капрыс», «Жэўжыкі» і «Світаначак» выступілі з багатай праграмай, прадстаўляючай гісторыю і дасягненні школы. Пятрусь Сліўка сыграў нават ролю Яраслава Васільевіча са славутым чорным роварам, на якім той ездзіў па вёсках, размаўляючы з бацькамі, збіраючы беларускіх дзяцей у сваю школу мараў. Апладысментамі слухачы ўспрынялі выступленне дырэктара Васіля Ляшчынскага, узнагароджанага медалём св. Марыі Магдаліны разам з Верай Міхноўскай і ўсёй школай, як і бургамістра Бельска Яраслава Бароўскага, які хадзіў у «тройку» яшчэ з «нулявога» класа і які прынёс школе ў час вучобы шмат індывідуальных дасягненняў — асаблівыя воплескі прагучалі, калі спадару Яраславу аж ламаўся голас ад хвалявання і ўспамінаў: «Гэта дзякуючы маім настаўнікам ведаю, што такое традыцыя, культурная тоеснасць. Гэта яны спрычыніліся да таго, што я з'яўляюся тым чалавекам, якім ёсць». А найбольш хваляваліся малечы, якія віталі толькі беларускімі вершамі мітрапаліта Саву, па-беларуску выступілі яшчэ Васіль Ляшчынскі, пісьменнік Ян Чыквін і старшыня Гарадской рады Ігар Лукашук:

— Вялікая колькасць людзей, якія з'яўляюцца маімі аўтарытэтамі, звязаны якраз з гэтай школай — гэта тыя, хто працаваў у школе, якія цяпер працуюць ці школу канчаюць. Дзякую табе, «тройка», што такіх сяброў вы мне выхавалі.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ


Злева: Вера Міхноўская, мітрапаліт Сава, Васіль Ляшчынскі і Яўгенія Васілюк





# Дэбаты і інтрыга

Кожная выбарчая кампанія цікавая найперш сваімі спрэчкамі і дэбатамі кандыдатаў. Калі гэтага няма, то няма і ніякага выбару — ісціна простая як аглобля. Сёлетнія прэзідэнцкія выбары ў Польшчы маюць сапраўдную інтрыгу. Глядзець на выбарчую кампанію цікава і суседзям. Асабліва цяпер, калі на фінішную прастору выйшлі два фіналісты — цяперашні прэзідэнт Браніслаў Камароўскі і прэтэндэнт на вышэйшую дзяржаўную пасаду Анджэй Дуда. Паглядзеў нядзельныя тэлевізійныя дэбаты паміж спаборнікамі. Папраўдзе, мяне, як староннягa назіральніка з-за мяжы, яны не ўразілі. Так, канешне, чарговы раз пазайздросціў, што ў суседняй краіне сапраўды ёсць мажлівасць выбару кіраўніка дзяржавы, калі ад кожнага голасу нешта залежыць. Выдатна, што ёсць такая магчымасць публічных дэбатаў з трансляцыяй на ўсю дзяржаву. Але пытанні вядоўцаў тэледэбатаў да прэтэндэнтаў мне падаліся малацікавымі, а самі канкурэнты пераважную большыню часу вінавацілі адзін аднаго ў непаслядоўнасці, беспрынцыповасці і частай зменай поглядаў у залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры. Словам, сапраўды яркіх момантаў, на мой суб'ектыўны погляд, было малавата. Але галоўнае, што інтрыга застаецца — і на момант, калі пішуцца гэтыя радкі, ніхто не ведае прозвішча новаабранага прэзідэнта Польшчы. Але ўсе дакладна ведаюць, што пройдзе наступны тэрмін паўнамоцтваў і гэтага кіраўніка, калі ён будзе не даспадобы большасці, будзе мажлівасць памяняць на іншага. Праўда, народ не цэніць гэтага і перапоўнены скепсісам. Але так хіба ўсюды, дзе ёсць дэмакратыя, якая, на жаль, таксама перажыла свой пік і ўжо многіх расчаравала. Ды лепшага, як кажуць, ніхто яшчэ не здолеў прыдумаць.

У Беларусі ўсё наадварот. Тут выбарчая прэзідэнцкая кампанія, якая таксама прыпала на бягучы год, ніякай інтрыгі не мае. У мінулыя выбарчыя гады хоць бы была інтрыга плошчы — у 2006 годзе ў цэнтры беларускай сталіцы было цёпла, а ў 2010 годзе — па-сапраўднаму горача. Былі зарэгістраваныя апазіцыйныя кандыдаты, якія мелі магчымасць сустракацца з выбарцамі, а раз ці два выступіць па тэлевізіі і выказаць усё, што яны думаюць пра цяперашняга кіраўніка дзяржавы і створаную ім сістэму. Праўда, заплацілі яны за такую крытыку і шырока публічна абвешчаную праўду дарагую цану: у 2006 г. Аляксандр Казулін — працяглым зняволеннем, у 2010 г. — Уладзіміра Някляева ледзь не забілі, Андрэй Саннікаў быў на досыць доўгі час зняволены, а потым, пасля вызвалення, змушаны выехаць за мяжу, Мікалай Статкевіч — дагэтуль у нялюдскіх турэмных умовах. Мінулыя цыклы ў Беларусі была яшчэ сумная інтрыга — колькі чалавек папярэдне затрымаюць і засудзяць да адміністрацыйнага арышту, колькі паб'юць на плошчы, колькі звольняць з працы за асабістую актыўнасць, якая не супадае з уладнай лініяй ці невыкананнем адміністрацыйных загадаў. А вось у 2001 г. было ціха — за слабым, нібыта апазіцыйным прафсаюзным, вылучэнцам амаль ніхто не пайшоў. У 2015 г. дэкаратыўнымі сапернікамі цяперашняга кіраўніка будуць альбо тыя, хто выконвае свае патаемныя абавязкі, альбо тыя, хто яшчэ не нагуляўся ў палітычныя інтрыгі.

Пра дэбаты ў час выбарчай кампаніі і марыць не даводзіцца, першы і апошні раз пры выбарах прэзідэнта яны былі ў далёкім 1994 годзе. Ужо і апазіцыі, як моцнай згуртаванай сілы, няма, ужо і грамадскія асяродкі амаль усе ліквідавалі — тых арганізацый — толькі зайцу на закуску. Ужо і незалежнай прэсы — мізэр, як некалі казалі — з жабіны прыгаршчы. А ўсё ім уладным „гаспадам" няўрымсліва. Дайшло да таго, што днямі Міністэрства інфармацыі РБ выслала мэйлам папярэджанне сайту Беларускага Радыё Рацыя — маўляў кепска на тым сайце і неаб'ектыўна пішуць пра Беларусь. Але што з іх — такіх міністраў узяць — яны ж скіраваны выключна на рэпрэсіі, на цемрашальства. І нават не зразумеюць, што такое права грамадзян на інфармацыю і што такое свабода медый. Яны зрабілі свой ганебны выбар і зваротнай дарогі для іх няма...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Альтэрнатыва сыру



Герой вядомага рамана Яраслава Гашака, незабыўны ваяка Іосіф Швейк, каментуючы нейкую чарговую афёру, прычынай якой былі ягоныя бесклапотныя паводзіны, казаў нешта накшталт гэтага: «Ніколі так не было, каб неяк там не было». Затым ён сягаў з нявінным выглядам па піпачку і пыхкаў па-філасофску. Я кажу «нешта кшталтам», таму што яго словы я цытую па памяці, але з поўнай упэўненасцю, што не сказіў іх простага і ў той жа час знамянальнага сэнсу. Тое, што адбылося, не можа быць адменена. Наступствы кожнага здарэння, у якія ўплятаюцца людзі, дзейнічаюць у адпаведным для сябе рытме акцыі і рэакцыі, прычыны і следства. Яны не могуць быць адкліканымі. Яны ўсё становяцца, хоць і неабавязкова тут і цяпер мы разумеем гэта. Але калі не сёння, то напэўна заўтра, паслязаўтра мы зразумеем важнасць змяненняў, якія яны прыносяць з сабой. Што мае быць — будзе. Нягледзячы на бясконцую польска-польскую вайну, пыхкаем піпачку па ўзору бравага салдата Швейка. Некурачыя могуць смактаць лядзяш, каб супакоіцца. На самой справе, перамога Камароўскага ці Дуды на выбарах прэзідэнта РП і, адпаведна, электарату ПіС і ГП, і агучаных імі светапоглядаў не маюць ніякага значэння, паколькі гэта не зменіць статусу дэмакратыі нашай краіны. Не трэба маніць сабе. Няма дэмакратыі ў свеце, у якой не ішла б разлютаваная вайна за рацыю бакоў. Можна спаслацца на найстарэйшыя ў час сучаснасці, амерыканскую або брытанскую. У першай сваю бітву за Сталінград вядуць рэспубліканцы і дэмакраты, у другой — лейбарысты і торы. Непазначаны страты, панесеныя абоімі бакамі ідэалагічнага або светапогляднага канфлікту. У гэтым сэнсе кожная перамога ў дэмакратыі падшытая паразай. У Польшчы, абедзве мейнстрымныя — як гэта цяпер модна завецца — партыі, ГП і ПіС, паказваюць уяву катастрофы, якая, на іх думку, чакае нашу дзяржаву і яе грамадзян у выпадку перамогі процілеглага лагера. Грамадзянская платформа палохае нас, можа і мае рацыю, вяртаннем палітычнай каптурнай сістэмы, званай IV Рэччу Паспалітай, а створаная Яраславам Качынскім. ПіС, дэмагагічна як і ГП, пужае ўмацаваннем дзяржаўнай ляноты, пасродкавасці «цёплай вады з-над крана» і грамадскага ўпадку. Абедзве партыі ставяць сабе аднолькава няслушна слушныя ці слушна няслушныя абвінавачванні. Абедзве аднолькава няспраўныя і палітычна неэфектыўныя. Перш за ўсё таму, што яны самую актыўную частку грамадзян, якія ўдзельнічаюць у выбарах, падзялілі менавіта па палове. Так што падзялілі паміж сабою роўна палову паловы. Для другой, знеахвочанай ідэалагічнай вайной часткі грамадзян, якія маюць у носе выбар паміж адной і іншай палітычнай аптацыяй, ні адна з гэтых партый не мае нічога новага ў прапанове. Альтэрнатыва, якую прынёс на палітычную сцэну Кукіз, у прэзідэнцкіх выбарах ужо прапала. Ці даспее да поспеху на сёлетніх парламенцкіх выбарах — пакуль невядома. Ва ўсякім выпадку, неяк там будзе.

Выбары выбарамі, а я яшчэ не намякнуў пра... сыр. Надалей я ўражаны неадольным смакам гайнаўскага смакоцця званага «Царскім», настойліва спасылаюся на яго хаця б слоўцам у сваіх апошніх фельетонах. Такім чынам, няхай так будзе ў адпаведнасці з гэтай новай традыцыяй. Вось прыведзены спачатку Яраслаў Гашак, спалучаў у сабе запал да літаратуры са смакам да багемнага жыцця, блуканнем па шынках і... палітыкай. У адной з такіх піўнух заснаваў перад выбарамі ў Аўстра-Венгерскі парламент у 1911 г. парадыйную «Партыю ўмеранага прагрэсу ў рамках закона». У дзень выбараў, каб спакусіць выбаршчыкаў, павесіў перад выбарчым участкам «меню падрыхтаванае выключна для нашых выбаршчыкаў». Стравы ў гэтым меню ўключалі хабаток слана ў заліўной, смажанага марскога коніка з печаным багаціннем ці... сыр з кабылінага малака. Як адзначае сам Гашак, першы выбаршчык вырашыў выбраць з меню страву толькі пасля 13 гадзіны. Заказаў сыр. «Гэта быў дрэнны знак. У шэсць гадзін мы прапаліся» — запісаў пісьменнік. На самой справе, на яго партыю прагаласавалі яшчэ акрамя сырнага гурмана 19 выбаршчыкаў. Тым не менш, ні адзін з іх не хацеў заказаць ні сыру, ні іншых страў. Ці гэта па памылковай пагаворцы, што дурню сыр на думцы, зусім прапала «Партыя ўмеранага прагрэсу ў рамках закона»? І як гэта будзе з альтэрнатыўным рухам засяроджаным вакол Паўла Кукіза?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Што з Азербайджанам?

У Польшчы адносна часта гаворыцца аб парушэннях правоў чалавека ў Беларусі, Украіне ці Расіі. Гэта, па меншай меры, супастаўнае ў адносінах да іншых краін за нашай усходняй мяжой (я маю на ўвазе краіны былога СССР). І так, на мой погляд, ёсць у адносінах да Азербайджана, які, разам з Арменіяй, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай, з'яўляецца партнёрам праграмы Усходняга партнёрства Еўрапейскага Саюза. Азербайджан — прэзідэнцкая рэспубліка над Каспійскім морам, колькасна супастаўная з Беларуссю, багатая нафтай, прыродным газам, меддзю і каменнай соллю. Кіруе ёю Ільхам Аліеў, які займае пасаду прэзідэнта з кастрычніка 2003 года (незадоўга да гэтага быў прэм'ер-міністрам, назначаным на пасаду бацькам Гейдарам Аліевым, у той час прэзідэнтам). Адносна абыякава прыняты быў у свеце той факт, што тыя першыя выбары прэзідэнта, у якіх перамог — на думку міжнародных назіральнікаў — не адпавядалі міжнародным дэмакратычным стандартам і не былі прызнаныя апазіцыяй. Наступныя былі ў 2008 годзе, у якіх ён зноў выйграў (88 адсоткаў падтрымкі) таксама, як і ў апошніх у 2013 годзе (тады атрымаў падтрымку 84,5%).

Калі я ў верасні 2011 года назіраў саміт Усходняга партнёрства ў Варшаве, не пачуў там выказанага публічна гучнага слова крытыкі ў дачыненні да прымянення недэмакратычных норм у Азербайджане. Падобна было на саміце ў лістападзе 2013 года ў Вільні і цяпер, на завершаным 20 мая саміце ў Рызе. Больш таго, Азербайджан падпісаў пагадненне з ЕС аб спрашчэнні візавага рэжыму, дзякуючы якому са жніўня 2015 года яго грамадзяне могуць лягчэй і танней атрымаць кароткатэрміновыя візы, якія дазваляюць на свабодны праезд у краіны ЕС і на яго тэрыторыю. Таксама працягваюцца асацыяцыйныя перамовы Азербайджана з ЕС. Тым часам, у канцы красавіка Група Замежжа, накіравала Тадэвушу Івінскаму, дакладчыку Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы адкрыты ліст з пытаннямі аб парушэннях правоў чалавека ў Азербайджане. Група Замежжа гэта платформа 61 польскай недзяржаўнай арганізацыі, якая ўдзельнічае ў супрацоўніцтве ў мэтах развіцця, прасоўвання дэмакратыі, гуманітарнай дапамогі і глабальнай адукацыі. У лісце гучаць пытанні: якія дзеянні Тадэвуш Івінскі мае намер распачаць у сувязі з рэпрэсіямі актывістаў няўрадавых арганізацый у гэтай краіне, якія яго планы па захаванні азербайджанскімі ўладамі павагі да правоў чалавека і міжнародных абавязацельстваў, што ён намервацца зрабіць для вызвалення арыштаваных грамадскіх і палітычных актывістаў і асуджэння азербайджанскіх улад за правапарушэнні? Непасрэднай падставай для іх выказання з'яўляецца сітуацыя Расула Джафарава, юрыста і праваабаронцы, які дакументуе факты парушэння правоў чалавека ўрадам Азербайджана. Ён быў арыштаваны летам мінулага года па сфабрыкаваных абвінавачаннях у падробцы дакументаў, вядзенні незаконнай дзейнасці і злоўжыванні службовым становішчам. У сакавіку гэтага года Тадэвуш Івінскі, як дакладчык ПАСЕ, сустрэўся быў з ім у арышце. Праз некаторы час Расул Джафараў быў прыгавораны да шасці з паловай года пазбаўлення волі. Члены групы пішуць: «У каментарыі да гэтага прысуду вы палічылі пакаранне «непрапарцыйна доўгім» і выказалі перакананне, што азербайджанскія ўлады прымуць неабходныя меры для забеспячэння — на стадыі апеляцыі — справядлівага судовага разбіральніцтва з ушанаваннем прынцыпаў роўнасці бакоў і прэзумпцыі невінаватасці, у адпаведнасці з артыкуламі 6 Еўрапейскай Канвенцыі па правах чалавека. Спасылаючыся на вашы словы, мы хацелі б адзначыць, што ў выпадку працэсаў па палітычных матывах немагчыма гаварыць аб прапарцыйнасці пакарання. Як падкрэсліў Еўрапейскі трыбунал па правах чалавека (...) арышт і працэс па палітычных матывах супярэчаць арт. 5 і 18 Канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, а суд на падставе сфабрыкаваных абвінавачванняў супярэчыць міжнародным абавязацельствам Азербайджана. Мы не падзяляем вашай веры ў гатоўнасць улад Азербайджана да забеспячэння справядлівага судовага разбіральніцтва справы Расула Джафарава на стадыі апеляцыі». Справа Расула Джафарава — толькі адзін з прыкладаў недэмакратычнасці ўлад Азербайджана. Ці ў адносінах да кіруючых там улад ЕС не павінен прымяняць тых жа мер як супраць Беларусі ў дачыненні да павагі да правоў чалавека і дэмакратычных прынцыпаў, і гучней заклікаць да іх ушанавання?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Сярод выступаючых у Гайнаўцы з царкоўным рэпертуарам удала запрэзентаваліся ажно 7 хароў і калектываў з Рэспублікі Беларусь і занялі яны першыя месцы ажно ў трох на чатыры катэгорыі конкурснага агляду фестывалю.**

# ДУХОЎНАСЦЬ І МАСТАЦТВА Ў ГАЙНАЎЦЫ

**XXXIV Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі»**, які з 11 па 16 мая праходзіў у асноўным у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, адзначаўся духоўнасцю і мастацтвам выканання царкоўнай музыкі. Фестываль арганізаваўся з блаславенства мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы і пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага і маршалка Падляшскага ваяводства Мечыслава Башко. Каля 30 хароў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Малдовы і Францыі ўдала выступілі з рэпертуарам царкоўнай музыкі ў гайнаўскім саборы, а частка іх прэзентавалася з канцэртамі таксама ў розных мясцовасцях Беласточчыны і ў Элку. Публіка магла паслухаць спеў у выкананні пераможцаў фестывалю царкоўнай музыкі падчас гала-канцэртаў, якія 16 мая адбыліся ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і царкве Агія Сафія ў Беластоку.



Хор Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва з Мінска «Дабравест» (Беларусь) заняў першае месца ў катэгорыі акадэмічных выканаўцаў



Акадэмічны хор Саратаўскай дзяржаўнай музычнай кансерваторыі з Расіі стаў лаўрэатам Гран-пры фестывалю

XXXIV Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» распачаўся з малебна, які ўзначаліў мітрапаліт Сава і з яго выступлення перад сабранымі.

— Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» гэта голас нашай любові да Таго, які ёсць Святым. Так трэба разумець штогадовае нашае спяванне ў Гайнаўцы. Адначасна гэта ёсць дэкларацыя свету, хто ёсць нашым Госпадам, хто ёсць нашым Богам. Спеў — гэта голас Бога ў нас, людзях. Ён ніколі не можа замоўкнуць, — сказаў мітрапаліт Сава.

Мерапрыемства адкрыў гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак, які ў сваім выступленні звярнуў увагу на незвычайнасць і прыгожасць царкоўнай музыкі. Заявіў ён, што гайнаўскі фестываль з'яўляецца вялікай, асаблівай малітвай выступаючых хароў за Божае блаславенства для Гайнаўкі, Польшчы і свету.

Міжнароднае мерапрыемства падчас яго адкрыцця і гайнаўскага гала-канцэрта ўдастоілі таксама праваслаўны епіскап люблінскі і холмскі Авель і шматлікія праваслаўныя святары, каталіцкі епіскап драгічынскі Тадэвуш Пікус і каталіцкае духавенства, дыпламаты Рэспублікі Беларусь і іншых замежных краін, дэпутаты Сейма і Сената Рэчы Паспалітай Польскай, прадстаўнікі ўрада РП і падляшскі ваявода Анджэй Мэер, ваяводскія, павятовыя і гмінныя самаўрадаўцы, прадстаўнікі культурных, асветных і іншых устаноў, прадстаўнікі мундзірных службаў, прадпрымальнікі і шматлікія спонсары гайнаўскага фестывалю. На адкрыццё, гала-канцэрт і конкурсныя слуханні фестывалю прыходзілі шматлюдна праваслаўныя вернікі і асобы іншых канфесій. Галоўнымі арганізатарамі фестывалю былі Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры.

— Больш чым 30 гадоў пад купаламі прыгожага Свята-Троіцкага сабора гучыць цудоўная царкоўная музыка. Музыка, у якой звышчасовы характар... Гайнаўскі фестываль урос у традыцыю і гісторыю горада, становячыся своеасаблівым святам, месцам сустрэчы розных культур і традыцый, абмену вопытам, завязвання сяброўства і супрацоўніцтва, — сказаў мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, дырэктар Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі».

Падчас інаўгурацыйнага канцэрта займальна выступілі мінулагодні лаўрэат — Хор Свята-Троіцкага прыхода з Гайнаўкі, якім дырыжыруе іерэй Павел Коршак і Мужчынскі камерны хор Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі з Варшавы, якога дырыжорам з'яўляецца член конкурснай камісіі фестывалю прафесар Уладзімір Валасюк. Выканаўцы царкоўнай музыкі з Рэспублікі Беларусь паказалі, што побач віртуознасці царкоўнага спеву ўмеюць паказаць таксама яго дастойнасць і духоўнасць. Дзіцячы хор нядзельнай школы Мікалаеўскага прыхода з Берасцевіцы выступіў адважна, займальна і заняў першае месца ў катэгорыі іншых хароў. Дзеткі захапілі публіку сваімі шчырымі дзіцячымі галасамі і былі рады, што мелі магчымасць выехаць з царкоўным рэпертуарам у замежжа. Хор стараруcкага вакальнага мастацтва «Срэценне» з Мінска цікава запрэзентаваў царкоўную музыку ў малітоўным настроі, а Вакальны калектыў настаўніц Свіслацкай дзіцячай школы выяўленчага мастацтва «Аніма», якога спявачкі з'яўляюцца таксама харысткамі праваслаўнага хору, паказаў, што з царкоўным рэпертуарам можна выступаць не горш, чым са свецкімі песнямі, якія складаюць асноўны рэпертуар гэтага калектыву. Падобнае можна сказаць таксама пра калектыў «Хабры» з Гродна, які дзейнічае пры гарадскім аддзяленні Саюза палякаў Беларусі. Іншыя хары і свецкія калектывы, якія ацэньваліся ў катэгорыі іншых хароў, запрэзентаваліся таксама ўдала і на высокім мастацкім узроўні. Па характары прэзентавання царкоўнай музыкі ў гэтай катэгорыі вылучаўся Хор духавенства Варшаўска-Бельскай епархіі, у якім выступілі тры святары і протадыякан Свята-Троіцкага сабора.

У Гайнаўцы ўдала запрэзентаваліся прыхадскія вясковыя хары з Падляшша: з Арэшкава, Дубіч-Царкоўных, Мельніка і Чаромхі. Першае месца ў катэгорыі вясковых хароў заняў Хор праваслаўнага прыхода ў Чаромсе, якога дырыжорам з'яўляецца протадыякан Мікалай Беламызы. Другое месца ў гэтай катэгорыі заняў хор з Дубіч-Царкоўных, а трэцяе — хары з Арэшкава і Мельніка. Выступленні ўсіх вясковых хароў паказалі, што можна захапляцца прасцейшымі царкоўнымі творамі, калі іх выкананне правільнае і ідзе ў пары з духоўнасцю спеву. Для вясковых харыстаў выступленні на фестывалі ў гайнаўскім саборы гэта вылучэнне, прэстыж і падвядзенне вынікаў шматлікіх рэпетыцый.



Хор праваслаўнага прыхода Сабора ўсіх беларускіх святых з Гродна (Беларусь) заняў першае месца ў катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў

— Наша новая дырыжор Ева Сурэль займаецца з хорам толькі са жніўня мінулага года і я рады, што навучыла нашых харыстаў так прыгожа спяваць. Цешыць, што побач моладзі спяваюць таксама дзеткі, якіх я хрысціў і з'яўляюся іх духоўным айцом, — сказаў протаіерэй Лявонцій Анхім, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Арэшкаве.

— Мы трэці раз спявалі на гайнаўскім фестывалі. Сёння не выступілі толькі найстарэйшыя жанчыны, якія спяваюць яшчэ падчас багаслужбаў. Ёсць у нас тут магчымасць паслухаць спеў у выкананні іншых хароў і павучыцца ад іх, — заявіла дырыжор прыхадскога хору з Дубіч-Царкоўных Анна Антанюк, якая кіруе ім з 2000 года.

Гарадскія прыхадскія харысты звярталі ўвагу на сваю любоў да царкоўнага спеву, які выконваюць падчас багаслужбаў. Удзел у гайнаўскім фестывалі гэта для іх таксама падвядзенне вынікаў працы падчас шматлікіх рэпетыцый, калі доўга рыхтаваліся да выступлення ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы. Цікава запрэзентаваліся гарадскія прыхадскія хары з Бельска-Падляшскага, Сямятыч, Варшавы і замежных парафій. Сабраных сваім спевам асабліва захапілі Хор праваслаўнага прыхода Сабора ўсіх беларускіх святых з Гродна (Беларусь) і Хор Куркіеўскага манастыра «Flacara» (Малдова), якія занялі першае месца ў катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў. Займальна царкоўную музыку запрэзентаваў Хор Сабора святога Аляксандра Неўскага з Кобрына, у якім спяваюць настаўнікі мясцовай школы выяўленчага мастацтва і прадстаўнікі іншых прафесій (занялі другое месца ў катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў). Хор Сабора святога Аляксандра Неўскага з Парыжа (Францыя) спяваў прыгожа і дастойна, здабываючы прызнанне ў гайнаўскай публікі.

— Наш прыход Сабора ўсіх беларускіх святых у Гродне, з якіх жыцця і дзейнасці мы, праваслаўныя беларусы, павінны браць прыклад, — сказаў настаяцель прыхода протаіерэй Анатоль Ненартовіч і пахваліў гайнаўскі фестываль.

Прыхадскія харысты спяваюць таксама ў свецкіх харах і калектывах і ў такой форме ўдала выступілі ў Гайнаўцы. Асаблівай віртуознасцю і вельмі высокім узроўнем мастацкага выканання царкоўнай музыкі адзначаліся выступы акадэмічных хароў. Цудоўна і на вельмі высокім мастацкім узроўні выступілі Акадэмічны хор Саратаўскай дзяржаўнай музычнай кансерваторыі (Расія), які стаў лаўрэатам узнагароды Гран-пры фестывалю, Хор Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтва з Мінска «Дабравест» (Беларусь), які заняў першае месца ў катэгорыі акадэмічных выканаўцаў і Вакальны калектыў Кіеўскага дзяржаўнага інстытута культуры і мастацтва «Многая лета» (Украіна), які заняў другое меса ў гэтай катэгорыі.

— Мы выступалі з канцэртамі ў Расіі, Германіі, Італіі і Турцыі, а ў Польшчы спяваем другі раз. Выступалі мы на фестывалі сакральнай музыкі ў Холме. У Гайнаўцы спяваем першы раз і бачым, што сёння выступаюць хары на высокім мастацкім узроўні, — сказала прафесар Альбіна Пякуцька, дырыжор мінскага хору «Дабравест», якая атрымала ўзнагароду для лепшых дырыжораў.

— Для нас гайнаўскі фестываль царкоўнай музыкі — гэта свята і мы штогод прыходзім у нашую царкву, каб паслухаць цудоўны царкоўны спеў у выкананні шматлікіх хароў, — сказалі гайнаўскія жанчыны.

Наведвальнікі гайнаўскага міжнароднага фестывалю маглі пабываць таксама на сустрэчы, прысвечанай хараваму спеву, і фестывальных выставах, на якіх прэзэнтаваліся здымкі і інфармацыя наконт бежанства, Іерусаліма і іконы аўтарства Аркадзя Свентахоўскага. Былі таксама арганізаваны канцэрт свецкай музыкі ў Асіродку «Ягелонскае», побач Белавежы, дзе на фоне пушчанскага лесу займальна запрэзентаваліся ўдзельнікі гайнаўскага фестывалю. Царкоўныя творы і свецкія песні ў выкананні конкурсных удзельнікаў фестывалю можна было пачуць таксама ў розных мясцовасцях Беласточчыны і ў Элку.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Лечымся зёлкамі

## Ладаннік



Калі вы яшчэ не паспрабавалі гарбаткі з ладанніку (czystek) — варта яе і папіваць з-за 10 прычын (і не ўяўных, але тых, за якімі стаіць навука), для якіх гэта варта зрабіць.

Дзякуючы таму, што надзвычай ён багаты ў поліфенолы, выдатна супрацьстаіць мікраарганізмам, напрыклад, вірусам. У выпадку інфекцый верхніх дыхальных шляхоў дапамагае хутка пазбавіцца ад іх сімптомаў. Таму, перш чым ухопіцеся за нейкія рэкламаваныя на тэлебачанні лякарствы, што «вылечаць грып і прастуду» — папіце гарбаты з ладанніку. Яе эфектыўнасць у інфекцыях пацверджана клінічнымі даследаваннямі.

Мужчынам, якія пакутуюць у старэйшым узросце ад прастаты, можа прынесці палёгку з-за сваіх антыпраліфератыўных і цытатаксічных уласцівасцей.

Выдаляе таксічныя цяжкія металы з арганізма (асабліва лёгка звязвае кадмій), і, такім чынам асабліва рэкамендуецца для курцоў.

З-за яго антыбактэрыяльных, супрацьвірусных і супрацьгрыбковых уласцівасцей прынясе палёгку пакутуючым, напрыклад, перхаццю, псарыязам, вуграмі, экземай, кандыдозам, хранічнымі і рэцыдывавальнымі інфекцыямі насавых пазух, рознымі скурнымі і пазногцевымі грыбковымі інфекцыямі, выкліканымі залацістым стафілакокам, вірусам герпесу (апрышчкай), апярэзваючым лішаём, інфекцыяй гелікабактэр пілоры і іншымі захворваннямі, выкліканымі праліферацыяй у арганізме непажаданых вірусаў, бактэрый і грыбкоў. Дапаможа нават тым, каму не дапамагаюць ніякія антыбіётыкі. Мае таксама антыгістамінное (супрацьалергічнае) дзеянне.

Дапамагае прадухіліць ішэмічную хваробу сэрца, растварае згусткі і блокі крыві.

Гэтая расліна з'яўляецца моцным антыаксідантам, мае вялікую здольнасць захопліваць свабодныя радыкалы і змяншаць актыўнасць калагеназы (ферменту, адказнага за расшчапленне калагену), тым самым мае амаладжальны і супрацьзапаленчы эфект і ажыўляе арганізм чалавека.

Дзейнічае нават на спірахеты, якія выклікаюць барэліёз. І не толькі абараняе ад інфекцыі (калі ходзіце ў парк ці лес, уключыце ладаннік у вашае штодзённае меню, таму што адпуджвае ён кляшчоў), а таксама дзейнічае, калі інфекцыя ўжо пачалася: рэчывы ў ладанніку «абклейваюць» спірахеты і іх абясшкоджваюць.

Можна паіць ладаннікам хатнія жывёлы, каб пазбыцца блох і кляшчоў.

Настойка з ладанніку з'яўляецца цудоўным сродкам гігіены рота. Прапаласканне рота пасля чысткі зубоў настойкай ладанніку заменіць любую аптэчную вадкасць для паласкання рота, у якіх найбольш часта выкарыстоўваецца таксічны антыбактэрыйны трыклазан. Ладаннік таксама адбеліць вашы зубы, таму што мае магутны ўплыў на бактэрыяльную біяплёнку — проста яе растварае.

Рэгулярнае піццё настойкі ладанніку змяняе пах сакрэцый цела. Калі хтосьці мае праблемы, напрыклад, з пахам поту (падпахі, ступакі), заўважыць праз некалькі тыдняў піцця ладаннікавай гарбаткі значнае зніжэнне непрыемнага паху.

**Ясюк СТРУК**

# Вяртаецца тое, што адышло ў забыццё

Неяк так мы прывыклі атаясамліваць Падляшша з ваяводствам, якое называецца „падляшскім", і рэдка задумваемся, чаму падляшскімі лічацца Сувалкі ці Ломжа, а Седльцы і Белая-Падляшская гэта Мазовія і Люблінշчына адпаведна. Тое, што нейкі недавучаны чынуша наблытаў у назвах, ад абавязку думаць нас не звальняе. Падляшша распаложанае па абодвух баках Буга і не пачынаецца з Сямятыч і Драгічына — абодва гарады ляжаць акурат у цэнтры прыгожай зямлі, якая называецца Падляшшам. Няпраўда, што праваслаўнае насельніцтва, якое жыло да акцыі „Вісла" на паўднёвым і заходнім Пабужжы, гэта ўкраінцы, а такія ж сяляне — толькі што на другім беразе ракі — гэта ўжо беларусы. Здаецца мне, што мае рацыю Дарафей Фіёнік, які гэтае насельніцтва лічыць падляшамі.

Цікавым заняткам для мяне з'яўляецца знаходжанне на левым, „польскім" як у нас кажуць, баку Буга элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, супольнай для ўсяго падляшскага рэгіёна. Не буду паглыбляцца ў дэталі, бо гэта асобная шырокая тэма, але найлягчэй іх сёння заўважыць, напрыклад, у драўляным вясковым будаўніцтве, прастораваў планіроўцы населеных пунктаў ці назвах мясцовасцей. Калі ўехаць, напрыклад, у вёску Копцы Лосіцкага павета, то складаецца ўражанне, што знаходзішся напрыклад, у Шарнях каля Орлі. Значная частка жыхароў Пабужжа носіць такія ж самыя прозвішчы. Выхадзец з маёй вёскі Бацікі, праваслаўны Ян Саўчук ажаніўся з забужскай каталічкай Гражынай Саўчук з вёскі Гарошкі. І што, трэба мне сцвярджаць, што Ян — беларус, а Гражына — украінка?



Фота Рамана ПЯТРЫКА

Даўняя царква ў Ортэлі-Каралеўскім

Аб тым, што культура падляшскага насельніцтва — супольная, сведчаць песні, якія спяваюць па абодвух баках ракі. Нядаўна папала мне ў рукі прыгожая кружэлка „Гэй, там под борэм..." фальклорнага калектыву „Мацеж" з вёскі Ортэль-Каралеўскі Пішчацкай гміны Бяльскага павета Люблінскага ваяводства. Як паказвае падабраная спявачкамі для створанай у 2009 годзе вакальнай групы назва, іхні спеў гэта вяртанне да каранёў і традыцыі рэгіёна, з якім калектыў атаясамліваецца. Тады нічога дзіўнага, што на кружэлцы прадстаўлена шматкультурная рэгіянальная традыцыя: на 12 запісаных песень палову складаюць польскія, а другую палову — спяваныя па-свойму. У ліку астатніх апынуліся агульнавядомая „Колькі ў небе зор", „Ой, скотылася ясная зорачка" ці жартоўная „Горылка" спетая на мелодыю „Касіў Ясь канюшыну". Польскамоўныя песні гэта спакойныя, лірычныя мелодыі характэрныя для музычнай культуры Падляшша. Усе песні прыгожа выкананыя пад акампанемент акардэона. Значыць, зусім па-нашаму, хаця так далёка адсюль.

Душой калектыву з'яўляецца Анэта Бучынская з Пішчаца. Удзельніцы калектыву „Мацеж" сустракаюцца раз на тыдзень — каб развучыць новыя творы, а таксама каб паспяваць у сваім коле. Мясцовая публіка любіць іх выступленні, хаця песні, выконваныя „па-хахлацку" — як самі называюць — выклікаюць здзіўленне. Некаторыя спявачкі разумеюць мясцовы дыялект, але штодзень ніхто ім не карыстаецца. Спадарыня Бучынская з гонарам сцвярджае, што „іх спяванне — яшчэ сапраўднае", не інсцэніраванае на падставе інструктыўных матэрыялаў. З іншых крыніц я даведаўся, што ўдзельніцы калектыву, нават без спецыяльнага запрашэння, ахвотна адпяваюць памерлых, а калі трэба, закасваюць рукавы і дапамагаюць патрабуючым.

Распытваю пра планы на будучыню. Мабыць, восенню з'явіцца чарговая кружэлка „Мацежы". Магчыма, будуць на ёй выключна ўсходнеславянскія песні, якія спявачкі яшчэ — хаця б фрагментарна — помняць. Хацелі б таксама спяваць праваслаўныя калядкі, але, на жаль, ніхто не ведае ніводнай цалкам. Спатрэбіўся б ім зборнік з тэкстамі калядак, бо мелодыі яшчэ помняць. Можа хто з нашых чытачоў мог бы ім дапамагчы?

**Марк ЦЫБАРТ**

# Шпітальныя бы~~ы~~лі пірожнае са скваркамі



Шпітальнае жыццё, калі ім добра пакіраваць, можа аказацца цалкам пазітыўным досведам. Вымушаны адпачынак не пашкодзіць нават найбольш заўзятым працаголікам. Колькі ж кніжак можна прачытаць, людзей спаткаць, будучы прыкаваным да шпітальнага ложка. Палата нумар 15 інфекцыйнага аддзялення бельскага шпіталя на два тыдні ператварылася ў сапраўдную кавярню-клуб. Кніжкі, прэса, інтэрнэт, добрая кампанія, а нават уласны чайнік, каб у любы момант напіцца кавы ці гарбаты. Дзверы ў палату амаль не зачыняліся, нягледзячы на сапраўды сур'ёзны ўзрост большасці наведвальнікаў. У моду штодзённых сустрэч за кавай увайшло таксама пірожнае „праз машынку" (мясарубку) проста са шпітальнай кравы.

— Такое мая маці пякла, — заўважае пажылы спадар Марыян з Браньска з палаты № 12.

Вынікі невялікага апытання, праведзенага сярод пацыентаў інфекцыйнага аддзялення паказваюць, што менавіта пірожнае „праз машынку" гэта самы папулярны ласунак старэйшага пакалення насельніцтва Бельска і навакольля. Яго рэцэпт усе ўдзельнікі кавярняных сустрэч у палацы № 15 маглі сказаць з памяці. Самае цікавае і незвычайнае для насельніцтва іншых раёнаў Беласточчыны тое, што пяклі яго тут са скваркамі. 42-гадовая Ядзя прызнаецца, што яе ўжо дарослым дзецям скваркі ў пірожным перашкаджаюць. Але яна сама выхавалася яшчэ на традыцыйнай рэцэптуры пірожнага. Выпякаць навучылася ад роднай мамы хаця і свякруха таксама пякла.

— Свякрыная я нават і не спрабавала, — кажа Ядзя. — Надта ж яна мне надаела за 18 гадоў супольнага жыцця. Папраўдзе, яна толькі кампаненты ў міску кідала, а ўсё астатняе рабіў свёкар.

Тэма пірожнага раптоўна пацягнула за сабой успаміны горкіх дзён, пражытых зараз пасля замуства.

— Увогуле мяне з хаты не пускала, нават з мужыком у Бельск па пакупкі. Помню, захацелі мы з суседкай на пілігрымку ў Ліхень з'ездзіць. 50 злотых каштавала. Я якраз прадала метр картоплі за дакладна такую ж суму. Усё роўна не адпускала. Закалола свінчо, каб мне работы дабавіць. Ну што ж, прыйшлося гэтыя сальцісоны варыць. Так я спяшалася, што аблілася гэтым сальцісонам, які ў вялікім гаршку варыўся на пліце. Дзіўнае, але болю ніякага я не пачула, толькі адзенне збялела ад зваранага і застыўшага ўжо тлушчу. Не трэба было выклікаць хуткай дапамогі, са мной было сапраўды ўсё ў парадку. Свякруха такналякалася Божага Пальца, што ў канцы мяне адпусціла.

Але гэта ўжо гісторыя. Цяпер Ядзя сама сабе гаспадыня, а пірожнае „праз машынку" са скваркамі пячэ яна вось так:

Укінуць у міску, на вока, крыху мукі, смятаны, яек, цукру, парашку для выпечкі альбо аміяку. Усё гэта размяшаць і вырабіць цеста, якое павінна быць дастаткова мяккае.

Стапіць сала на скваркі і перакруціць іх двойчы праз мясарубку з дробным сітцам. Спалучыць з цестам. Гатовае цеста перакруціць праз мясарубку са спецыяльнай канцоўкай для пірожнага. Шнурочкі цеста з мясарубкі парэзаць на кускі. Пакласці на бляшку змазаную тлушчам і трымаць у духоўцы пакуль не спякуцца на залаты колер.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Беларускасць у тэатры Горкага

Жыццю і творчасці Уладзіміра Мулявіна, памерлага ў 2003 годзе легендарнага гітарыста, спевака і кампазітара, заснавальніка і мастацкага кіраўніка культавага ў Беларусі ансамбля «Песняры» прысвяціў п'есу малады драматург Васіль Дранько-Майсюк, сын выдатнага паэта — Леаніда. Гэта быў таксама дэбют культуролага, мастака, тэатральнага рэжысёра і акцёра. Паставіў яе ў выглядзе мюзікла Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага, самы рускі з тэатраў беларускай сталіцы. На сцэне побач з постацямі з жыцця Уладзіміра Мулявіна з'яўляюцца постаці найвялікшых творцаў беларускай літаратуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Пры нагодзе скончаных 16 мая трохдзённых гасцінных выступленняў беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў беларускай сталіцы на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі «Ніва» мела магчымасць пабачыць гэтае прадстаўленне і пагаварыць з яго творцамі.



Са спектакля ў цэнтры з Сяргеем Жбанковым

Ужо здалёк від будынка тэатра імя Максіма Горкага спасылаецца на Мінск дзевятнаццатага стагоддзя. Тут, на цяперашняй вуліцы Валадарскага (былой Серпухоўскай) да кастрычніцкай рэвалюцыі знаходзілася харальная сінагога збудаваная ў маўрытанскім стылі. Затым перарабілі яе на кінатэатр «Культура». У 1920-1930 гг. тут адбываліся многія афіцыйныя мерапрыемствы і, у прыватнасці, мінчане маглі паслухаць вершы, якія чытаў Уладзімір Маякоўскі. У 1930-х гадах у гэтым будынку знаходзіўся Дзяржаўны яўрэйскі тэатр БССР. Пасля вайны будынак быў рэканструяваны і стаў сядзібай якраз тэатра імя Максіма Горкага, пераехаўшы сюды з Бабруйска. Ён носіць імя Максіма Горкага з 1955 года. З 1999 г. было прысвоена яму званне «нацыянальнага». У цяперашні час у рэпертуары тэатра ставіцца 28 найменняў п'ес на рускай мове. У 2008 г. галоўным рэжысёрам стаў тут Сяргей Кавальчык, той самы, які паставіў нядаўна паказаную ў Беластоку «Адвечную песню», прадстаўленую Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі, які цяпер гасціў беластоцкіх мастакоў са спектаклямі «Гугулы», «Танга забарона» і «Шэкспір» (аб прыняцці гэтых спектакляў мінскай аўдыторыяй — праз тыдзень).

З 1996 г. у гэтым тэатры працуе рэжысёрка старэйшага пакалення — Валянціна Еранькова (народжаная ў 1949 г. у мястэчку Лепель Віцебскай вобласці). Як пішуць пра яе мінскія крытыкі, «яе рэжысёрская манера зводзіцца да праецыравання ўласнага светапогляду на канкрэтны драматычны матэрыял, у выніку чаго пастаноўкі ніколькі не прыгнятаюць думку драматурга, але ў той жа час набываюць мастацкую афарбоўку, жвавасць вобразаў, меладычны тэмпарытм». Менавіта яна была рэжысёрам «Песняра», які з'яўляецца больш чым двухгадзінным аповедам аб барацьбе аднайменнага героя з уласнымі слабасцямі і ўвогуле пра пошукі беларускай духоўнасці, заклікам прытрымлівацца беларускіх каранёў. Гэта адбываецца паміж явай і сном, і глядзім гісторыю з пункту гледжання паміраючага Уладзіміра Мулявіна, які пасля некалькіх месяцаў барацьбы за жыццё памёр ад ускладненняў пасля аўтамабільнай аварыі. Тэкст быў напісаны па заказе тэатра імя Максіма Горкага. Першапачаткова прапанавалі напісаць яго Леаніду Дранько-Майсюку. Ён, аднак, адмовіўся. Прэм'ера адбылася ў кастрычніку мінулага года, пасля гадавой падрыхтоўкі. Рэжысёр у інтэрв'ю з «Нівай» у Мінску прызналася:

— Калі я звярнулася з просьбай напісаць п'есу прысвечаную Мулявіну да Леаніда, гэтага надзвычай уражлівага і прафесійнага пісьменніка, асабліва паэта, але і драматурга, які ведае тэатр знутры, вельмі гэта яго зацікавіла, але ён паслаў мяне да свайго сына, які таксама мае тэатральны вопыт на многіх узроўнях. Нейкім чынам адразу станоўча адрэагавала я на гэтую прапанову, таму што падумала, што толькі малады чалавек, смелы, без комплексаў, які не мае такога заціскаючага нас у Беларусі панцыра, мог бы справіцца з гэтай тэмай, з гісторыяй пра Мулявіна. І, нарэшце, з Васілём, пасля шэрагу складаных перамоў, мы знайшлі агульную мову. Мы вырашылі выкарыстоўваць няпростую мову — метафарычную. Гэта была рызыка, але таксама выклік для мяне і ўсяго тэатра: малады аўтар і няпростая схема гэтай драмы.

Беларуская тэма прагучала са сцэны гэтага тэатра ў апошнія гады толькі дзякуючы пастаноўцы тут «Пане каханку» Андрэя Курэйчыка. Сам Васіль Дранько-Майсюк свой вопыт працы ў якасці рэжысёра атрымаў пасля заканчэння вышэйшай школы ў РТБД, сярод іншага, паставіўшы тут «Шчаслівага мужа» Францішка Аляхновіча. Галоўную ролю Песняра іграе тут Сяргей Жбанкоў, акцёр маладога пакалення (1985 г. нар.), ураджэнец Віцебска, які апошнія сем гадоў працуе ў тэатры імя Максіма Горкага. Мы пагаварылі з ім пра падрыхтоўку да ролі:

— Упершыню я сутыкнуўся з такой вялікай роляй і такім відам працы над ёй, дзе ў любы час падчас рэпетыцый разам з аўтарам тэксту і рэжысёрам можна было змяніць п'есу. Калі паміраў Уладзімір Мулявін, мне было 19 гадоў, так што тупіку яго артыстычнай дарогі я не памятаю, але добра памятаю, калі я ўпершыню пачуў па радыё, як падлеткам, у яго выкананні «Малітву» (песня завяршае спектакль — М. Х.), пад уражаннем якой я да сёння. Пасля я слухаў папулярныя кампазіцыі «Песняроў», але не так пільна, каб я слухаў іх, і толькі іх. Я ведаў, што Мулявін вельмі папулярны і вядомы, але толькі падчас працы над спектаклем я зразумеў велічыню ў духоўным сэнсе большасці яго песень. Я проста абалдзеў ад тых, што ўзніклі на падставе твораў Багдановіча ці Купалы. Ніколі раней я таксама не ведаў, што ў «Песняроў» у рэпертуары так шмат песень, і прытым даведаўся, што і так не ўсе яны запісаны і апублікаваны...

Аляксей Еранькоў, аўтар музычнай канцэпцыі прадстаўлення, у час якога выконвае некаторыя творы (клавішныя, гітара, вакал), побач з тымі, якія гучаць у выкананні акцёраў, асабліва Сяргея Жбанкова, пасля ў размове з «Нівай» дадаў:

— І ніколі не будуць. «Песняры» сваіх твораў не запісвалі. Няма іх лічбавых запісаў.

Спектакль успрымаецца, асабліва старэйшай аўдыторыяй, з непрытоеным хваляваннем.

Валянціна Еранькова: — Я сутыкалася з вельмі маладымі людзьмі, якія пасля прагляду спектакля казалі адзін аднаму: трэба пашукаць дзесьці ў інтэрнэце песень Мулявіна, таму што гэта класная музыка. Я пачула, як адна маладая дзяўчына сказала іншай, што пасля вяртання дадому трэба заглянуць у кнігі Купалы і Багдановіча. Так што спектакль кранае. Часта пры выступленнях адчуваецца хвалюючае маўчанне, быццам бы ў глядзельнай зале нікога няма.

Мы папрасілі рэалізатараў «Песняра» расказаць пра прымаецца гэты факт, што са сцэны тэатра Горкага чуць у значнай ступені беларускую мову. Валянціна Еранькова:

— А гэта нешта страшнае? Мы ж нацыянальны тэатр. Прытым Мулявін — расіянін, уславіў нашу беларускую літаратуру, паэзію ва ўсім свеце. Дзякуючы яму многія ў свеце даведаліся пра прыгажосць беларускай мовы.

Сяргей Кавальчык:

— «Пясняр» з'яўляецца трэцім спектаклем, які паказваем у праекце «Беларускі сезон», г.зн. беларускай сучаснай драматургіі на нашай сцэне. Сярод нашых пастаянных гледачоў зварот да гэтай драматургіі выклікаў пэўную асцярожнасць, але нават газета «Савецкая Беларусь» назвала гэты сезон самай важнай тэатральнай падзеяй года.

Без сумневу, спектакль кранае патрыятычную, беларускую ноту. Што значыць беларускі патрыятызм? Валянціна Еранькова:

— Сама я ў палове ўкраінка, у палове беларуска. Гэта тое, што адбываецца ў душах акцёраў, гледачоў і ў маёй падчас гэтага спектакля — менавіта гэта патрыятызм. А так увогуле дык ён праяўляецца ў выконванні сваёй прафесіі, у адносінах да людзей, дома і краіны, у якіх ты жывеш, у добрым сэнсе — служыш. Не прыслужваешся, а вось служыш.

У размове з намі Васіль Дранько-Майсюк (інтэрв'ю з ім у «Ніве» не толькі пра «Песняра» ў бліжэйшы час) прызнаўся:

— Багдановіч, Колас, Купала, Цётка сталі героямі маёй п'есы таму, што гэта нашы песняры, якія наш народ зрабілі народам, а і Уладзімір Мулявін гэта чалавек, які ў 60-х і 70-х гадах прымусіў свет, і нас саміх, звярнуць увагу на беларусаў і нас саміх — на нацыянальных паэтаў, якіх у школах мала чыталі. У маёй п'есе Мулявіну ў яго сонных уявах бліжэй да гэтых паэтаў, чым да тых, што яго кожны дзень акалялі.

Уладзімір Мулявін нарадзіўся ў Свярдлоўску ў 1941 годзе. У 1963 г. ён трапіў у Беларускую дзяржаўную філармонію, дзе дзейнічаў з 1968 г. у гурце «Лявоны», якога стаў лідарам, і які ў 1970 годзе быў перайменаваны на «Песняроў». Будучы падлеткам, ён прыехаў у Мінск, каб скончыць тут вышэйшую музычную акадэмію. Ужо там перажыў захапленне беларускай народнай музыкай. Як першы прыняў яе за аснову папулярнага ў той час біг-біту. Акрамя таго, пачаў папулярызаваць вершы вядомых класікаў беларускай паэзіі, чые вершы афармляў у попмузыку ў 70-я гады. Ансамбль выступаў і ў Польшчы, а таксама ў 1971 годзе на фестывалі ў Сопаце з песняй «Ой, рана на Івана». Заснавальнік і лідар гурта быў у Польшчы ў 1980 годзе, дзе быў удастоены звання і медаля «Заслужаны для культуры». Многія з вакалістаў групы з'ехалі на Захад. Пасля смерці Уладзіміра Мулявіна гурт распаўся на тры групы.

Сяргей Жбанкоў:

— Творы, выконваныя чарговымі «Песнярамі» без Мулявіна, гэта быццам бы тыя самыя песні, але не ляскаюць.

Сяргей Кавальчык:

— Толькі такая асоба, як Мулявін, можа аб'яднаць усіх вакол сябе. Без яго гэта немагчыма.

Спектакль суправаджаецца выставай у фае тэатра, дзе можна ўбачыць шыкоўныя, арыгінальныя касцюмы, у якіх на сцэне паяўляўся пясняр — «Пясняр».

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Дзень маці



Гмінны асяродак культуры і Раённае аддзяленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе арганізавалі мерапрыемства, прысвечанае Дню маці. Гэтая цыклічная імпрэза традыцыйна адзначаецца 26 мая. Паколькі сёлета ў гэтым тэрміне зала будзе выбарчым участкам у час II тура прэзідэнцкіх выбараў, дык арганізатары Дзень маці адзначылі ў суботу 16 мая.

Рэкламныя абвесткі былі намнога раней распаўсюджаны ў салэцтвах. Прысутнасць аднак была нешматлікая. Удзельнічала ўсяго каля пяцідзесяці чалавек, у тым ліку ганаровы госць старшыня Рады гміны Сяргей Смык. На такі стан рэчаў, па-мойму, паўплываў раскол у радах чаромхаўскіх пенсіянераў, пасля «прадуктовага скандалу» ды талерантнае стаўленне да паталагічных з'яў з боку статутных органаў ПСПіІ.

У трынаццаць гадзін з уступным словам выступіў старшыня саюза пенсіянераў Мікалай Янчук. Павіншаваў ён маці і бабуль з нагоды Дня маці, затым кранаў «арганізацыйныя справы».

— Зараз па спіску прапісана каля чатырохсот членаў, — канстатаваў прамоўца. — Членскія ўзносы дагэтуль заплаціла 18% членаў. Двух членаў было прынятых, чатырох адказалася быць членамі і былі спісаны з рахунку. Праўленне аддзялення хадайнічае за добраўпарадкаванне сацыяльнага будынка былога паравознага дэпо (які зараз пустуе), з прызначэннем на рэабілітацыйны цэнтр. У гэтай справе былі пасланы заявы падляшскаму ваяводу і маршалку ваяводства. Ад ваяводы паступіў адмоўны адказ. Падобнае рашэнне атрымалі з Міністэрства інфраструктуры. Аргументацыя аднолькавая — адсутнасць спонсараў і фінансавых сродкаў для арганізавання рэабілітацыйнага цэнтра. Чакаем адказу з Маршалкоўскай управы.

У заканчэнні старшыня Янчук паінфармаваў аб арганізаванай Акруговым праўленнем ПСПіІ экскурсіі ў Аўгустаў па папскім маршруце. Выезд з Беластока. Кошт 50 зл.

Пасля выступіў старшыня Рады гміны Сяргей Смык. Павіншаваў жанчын са святам Дня маці, затым паінфармаваў аб рэалізацыі сёлетніх інвестыцый. Адной з важнейшых задач гміны з'яўляецца завяршэнне пабудовы каналізацыйнай сеткі. Тэрмін здачы — 31 кастрычніка г.г.

Да віншаванняў прамоўцаў музыканты далучылі песню прызначаную маці. А прысутных вясялілі браты з Тапаркоў. За пачастунак (фрукты, салодкасці і напіткі) пахадайнічалі арганізатары. Удзельнікі сустрэчы задаволіліся «ўласным кошычкам». Усяго было ўдосталь. Ды і атмасфера была сяброўская. Былі песні і бадзёрая музыка. Гітом аказаліся сольныя выступленні Раісы Баярунец, Грышы Бацюка з вёскі Чаромхі і Мікалая Парфенюка з Баброўкі. Паколькі Раіса запрэзентавала папулярныя рускія гіты, дык мужчыны для адмены выканалі польскія песні. Усе выканаўцы атрымалі бурныя апладысменты і воклічы «біс». Я пакідаў кампанію ў поўным разгары пасля 17 гадзіны. Каму ў дарогу, таму час...

Уладзімір СІДАРУК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Зорка
для дзяцей і моладзі


# Беластоцкія гімназісты ў «Ніве»

— А мы гаварылі па дарозе пра тое, што ў «Зорцы» будзе інтэрв'ю з нашым Алікам, — заявілі на прывітанне сябры з праваслаўнай гімназії ў Беластоку. Іх аднакласнік Алік Семянюк атрымаў вылучэнне ў Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.

У першым класе гімназіі на ўроках пісалі вершы. Для многіх гэта была забава са словам, акрашаная весялосцю або іроніяй. Вельмі арыгінальна праявіў сябе Грышка Васілюк. Грышка сам па сабе незвычайны хлопец. Ён — званар у Супрасльскім манастыры. Таму ў яго вершах прысутныя моцныя акорды і аднachасова прыгожая і меладычная лагоднасць. Самі, дарэчы, прачытайце і ацаніце!

Нашыя сябры, разам з настаўніцай Віялетай Нікіцюк-Пэркоўскай, пазнаёміліся з рэдакцыяй, паглядзелі як выглядалі першыя нумары газеты і як выглядае сённяшні працэс падрыхтоўкі. Мы таксама прапануем пазнаёміцца з вершамі першакласніка Грышкі Васілюка. А наша ніўская сустрэча адбылася 13 мая г.г., у сонечны травеньскі дзень. Гімназісты паабяцалі, што запамятаюць дарогу ў «Ніву». Трымаем на слове.

Зорка,
фота Ганны Кандрацюк




*Грышка ВАСІЛЮК*
*ПШ імя Кірылы і Мяфодзія*

* * *

*У горадзе я бачу дрэвы.*
*Бачу блокі,*
*Бачу людзей.*
*Яны садзяць дрэвы.*
*На вёсцы няма дрэў.*
*Ніхто іх не садзіць.*
*Тут няма людзей.*
*Асталіся толькі старэнькія дамы.*

* * *

*Мая школа*
*Мой клас*
*Мае сябры*
*Мяе настаўнікі*
*Маё жыццё.*

* * *

*Я сяджу і пішу верш.*
*Раптам бах!*
*Ударыў гром.*
*Хіба Бог не хоча,*
*каб я стаў сваавутым паэтам.*
*Больш ужо не пішу.*

## Загадкі з роднай хаткі

**Не ідзі**
**яго шукаць да бору,**
**За хаты выйдзі:**
**вось і ён —**
**Раскрыўся проста**
**пры разоры,**
**Як парашутнік**
**Ш........**

**Крылаў не мае,**
**А лятае,**
**Без рук,**
**А вароты адчыняе,**
**Без голасу,**
**А спявае,**
**Без пугі,**
**А хмары ганяе.**
**В....**

## УВАГА КОНКУРС! № 21-15

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 31 мая 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 17-15: зязюля, цюльпан.**
**Узнагароды, CD з музыкай Андрэя Мельнікава, выйграла Дамініка Календа з Бельска-Падляшскага, CD з запісам падляшскага дзіцячага фальклору Сяржука Сокалава-Воюша і Тацяны Грыневіч выйграў Міхась Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!**

*Калі мы размаўлялі на тэму Свята маці, дзяўчаты III класа пісалі потым кароткія выказванні на тэму сваіх мам. Прапануем фрагменты іх выказванняў.*

## За што кахаем нашых мам?

Усе кахаем сваіх мам за тое, што яны проста ёсць. Нашы мамы найлепшыя на свеце.

**Аня Б.**: — Мая мама разумее мяне, умее гаварыць са мною пра мае праблемы. Яна цярплівая і я сама здзіўляюся, як яна са мною часам вытрымлівае. Мама любіць працаваць і займацца хатай, а найбольш агародам. Яна ніколі не паддаецца, бо яна адважная. Мая мама гэта мая сяброўка, апякунка і аўтарытэт.

**Магда П.**: — У мае мамы ўсе найлепшыя рысы характару. Яна добразычлівая, справядлівая, разважная, працавітая і сардэчная. Гэта асоба, якая любіць кампанію і хутка знаходзіць супольныя тэмы. У мае мамы вельмі ўражлівае сэрца.

**Наталля В.:** — Мая мама патрапіць выслухаць, параіць і зразумець мае паводзіны, бо хоча для мяне як найлепш. Яна таксама шчырая, чуллівая, сардэчная і ўпартая, бо цвёрда імкнецца да сваёй мэты. Я кахаю маму за яе характар, добрыя рады і за тое, што ёсць.

**Ася Л.**: — Мая мама ўпартая, але яе сэрца залатое. Яна ўмее слухаць, параіць і пагаварыць. Я люблю з мамай хадзіць за пакупкамі і кухарыць, бо тады заўсёды весела. Люблю, калі мама знаходзіць час для сябе, калі вяжа кручком, займаецца кравецкімі справамі або чытае газету.

**Вікторыя Б.**: — Мая мама чуллівая і шчырая, і таму я люблю праводзіць з ёю час. Я заўсёды магу з ёю пагаварыць пра свае справы. Яна цярплівая і справядлівая, бачыць шмат рэчаў, якіх іншыя людзі не заўважаюць.

**Наталля Б.:** — Мая мама вельмі памяркоўная і заўсёды мне выбачае. Яна кожны дзень чакае мяне, маіх братоў і сястру са смачным абедам.

**Аня П.:** — Мая мама вельмі клапатлівая, таму што кожны дзень займаецца маім хворым братам і ніколі не паказвае па сабе, што яна стамілася. Яна цярплівая, спакойная і адказная.

**Вучаніцы III класа Гімназіі ў Нараўцы**

# ГАНДЛЯР І АСЁЛ

*(грузінская казка)*

Жыў на свеце сціплы, небагаты чалавек. Была ў яго кароўка. Аднойчы ён рашыў прадаць карову. Паслаў ён на базар сына, каб той прадаў красулю за трыццаць рублёў.

Стаіць хлопчык з каровай на базары. Падыходзіць да яго купец і прапануе:

— Прадай мне сваё цяля, тры рублі табе заплачу.

— Гэта не цяля, а карова, — адказаў хлопец. — Не магу прадаць вам каровы за тры рублі.

Падышоў другі купец:

— Хлопчык, прадай мне сваю казу, за два рублі.

— Гэта не каза, а карова, — адказаў хлопец. — Не магу аддаць яе за два рублі.

Падышоў трэці купец:

— Хлопчык, прадай мне сваё ягня за рубель.

Хлопец яму ў адказ:

— Гэта не ягня, а карова. Не магу прадаць за адзін рубель.

— А колькі хочаш?

— Трыццаць рублёў.

Гандляр зарагатаў:

— Ты, відаць, сляпы. Не бачыш, які тавар прадаеш.

Падумаў хлопец: «Напэўна тут або не бачаць, або не вераць, што ў мяне карова». Найлепш будзе, калі прадам яе першаму купцу за тры рублі, бо іншыя яшчэ менш заплацяць.

Прадаў ён першаму купцу карову за тры рублі. У хаце бацька на яго накрычаў і адправіў да купца.

— Ідзі, скажы яму, што ты хацеў прадаць толькі карову, без хваста. Хай аддасць хвост, або верне карову.

Бацька спачатку думаў, што купец не адрэжа хваста карове, што ён верне назад жывёлу. Аднак купец адрэзаў хвост і аддаў яго хлопчыку. Зразумеў бацька, што не проста перахітрыць гэтага гандляра. У яго былі адкладзеныя на чорную гадзіну тры залатыя манеты. Сеў бацька на свайго асла і паехаў на базар. Калі ён праязджаў ля хаты гандляра, кінуў на зямлю дзве залатыя манеты.

Купец убачыў манеты і крыкнуў:

— Эй ты, глядзі, залатыя манеты згубіў!

— Невялікая бяда, — адказаў бацька. — За дзень з майго асла дзесяць такіх манет выходзіць.

Выбег гандляр на вуліцу, глядзіць на асла, распытвае:

— А дзе набыў такога?

— У нашай вёсцы ўсе аслы такія!

— Ты, прадай яго мне.

— Надта дарагі мой асёл.

— А колькі за яго просіш?

— Дасі столькі грошай, каб асла засыпаць па вушы — твой будзе!

— Добра, дам!

Узяў чалавек грошы, перадаў асла і каза на развітанне:

— Замкні яго на тыдзень у хляве. Ён табе вялікае багацце зробіць, увесь хлеў золатам засыпле.

Гандляр паслухаў рады, паставіў асла ў хляве і закрыў дзверы на замок. Прайшоў тыдзень. Хоча адкрыць дзверы гандляр, а дзверы не адчыняюцца, нешта замінае. Уцешыўся купец. Падумаў, што яго хлеў ад нізу да верху залатымі манетамі засыпаны. Паклікаў ён жонку і дзяцей. Наперлі ўсе на дзверы, расчынілі — а там дохлы асёл ляжыць.

Бедная жывёла памерла ад голаду.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

# МАША І МЯДЗВЕДЗЬ



Сярод маленькіх і старэйшых дзяцей што нейкі час прыходзіць мода на штонебудзь. Ці на слова, якое паўтараюць няспынна, ці на вопратку, ці аздобу. Цяпер праходзіць вар'яцтва на казку „Маша і мядзведзь". У інтэрнэце сотні тысяч уваходак на сайт Машкі па-руску, па-польску, а нават па-англійску. У дзіцячых газетах афарбоўкі, крыжаванкі, заданні пра гэтую казку. На „Аллегра" сустракаем Машку — ляльку, ручнік, заплечнік, кубак, парасон, карціны рознага выкарыстання. Маша з Усходу робіць кар'еру на Захадзе, толькі глядзець як ступіць на чырвоны дыван сярод зорак свету.

Прыгоды маленькай дзяўчынкі, якая нагадвае маленькіх нас саміх, б'е рэкорды папулярнасці. У чым справа? Я думаю, што ўсе маюць даволі вялікіх вачэй кітайскіх казак. Новы падыход — гэта паказанне славянскай красы. Дзяўчынка ў хустцы, гарбата з самавара, печка. Песні меладычныя. Маладых гледачоў прыцягвае таксама гумар. Старэйшых, магчыма тое, што нагадвае ім культавую казку маладых гадоў „Воўк і заяц", на якой яны былі хаваны. У чым не была б справа, вядома, што мульцік хутка пашырае круг фанатаў.

Мы ў хаце захапляемся Машкай таксама, пачынаючы ад паўтарагадовай дачкі, скончыўшы на мужу. Вядома, што аглядаем на рускай мове, на польскай нам не так смешна. Вакол усе аглядаюць мульцікі з непакорнай шкодніцай Машай і яе добрым апекуном мядзведзем Мішкам. Ведаю, што некаторыя купілі тэлевізары з інтэрнэтам, каб, між іншым, выгадней было паглядзець казку. Я вельмі цешуся, калі мае дачушкі спяваюць песню пра чыстату, разумеюць можа не ўсё, можа не кожнае слова, але па-дзіцячаму ловяць сэнс. А і з сябрамі паджартоўваем хто аглядаў, з вучнямі гаворым што ім падабалася. Цешуся, што нарэшце тэлегледачы звярнулі вочы на Усход, а не на Захад, дзе доўгі час іх не адрывалі.

**Альжбета РАМАНЧУК**



Вучні ў Залуках таксама аглядаюць „Машу і мядзведзя". Зрабілі коміксы на беларускай мове. Пры нагодзе працы з улюбёнай дзяўчынкай вучні даведаліся аб умовах напісання комікса.

# Вершы Віктара Шведа



## Якая тэмпература?

Татулька з працы звоніць
Да сынка Артура:
— Скажы, якая сёння
У цябе тэмпература?

— Дык сорак тры, мой татка.
— Не можа быць аж толькі...
— Сказала мая матка,
Што трыццаць сем
з шасцёркай.

## Будзь рэкламы

Усыпляе матка
Каханае дзіцятка.
Спакойнай табе ночы,
Мой дарагі сыночак.

Магчыма табе сніцца
Ужо казка-небыліца?
Дык дарагая мама,
Будзь яшчэ рэкламы.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 21-15

Адказ на крыжаванку № 17:

Шлях, год, мёд, пуд, Ас, метад, вечар, но, чарот, шпулька, на. Шмат, лёс, пуп, яд, меч, печань, хутар, дарога, дарожка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Адрыян Данілюк, Клаўдзія Сікорская** з Міхалова, **Наталля Красько, Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Оля Пугацэвіч, Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Зузя Бакер, Зося Саковіч, Марыся Савіцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Marek | Ar | | Sioła / Kalka | | | | | Prze-wodnik | | | |
| | | | | | | Jaś / Pacha | | Hoduje | | Dary / Obcas | |
| Siodło | Jedwab | Alpy / Dziwo | | | | | | | | | |
| | | | | | | | Zęby / Arab | | | | |
| Mlecz | | | | | | | | | | | |
| | | | | | Ara | | | | | | |
| Kwik | | | | | | Adaś | | | | | |
| Owal | | | | | Dzban | | | | | | |

# Раенскае бежанства

**Марыя ШУМСКАЯ шмат гадоў задавала курс грамадскаму жыццю ў вёсцы Райск. Гэта аптымістычная і сімпатычная жанчына, якой вяскоўцы давяралі шмат важных даручэнняў. Аднак за добразычлівай усмешкай прыхавана і тая жахлівая мінуўшчына, якая стала ўдзелам ейнага раенскага пакалення...**

14 чэрвеня 1942 года на нашых могілках адбывалася набажэнства. Пасля службы прыхаджане разышліся да сваіх хат на абед. Пасля поўдня каля могілак праязджаў нямецкі самаход з двума нямецкімі мужчынамі, дзвюма жанчынамі і адным дзіцём. Невядома хто і невядома дзеля чаго адкрыў агонь па тых немцах. Было мне тады васямнаццаць месяцаў. Перад тою ноччу, калі мела тут адбыцца тая расправа, многія раяне трывожыліся, што будзе, бо прадчувалі, што немцы могуць адплаціць вёсцы за тую атаку. Сябра майго тата Банькоўскі Станіслаў, які быў родам з Банькоў, а ў Райску быў у прыступах, сказаў: „Бяры дзяцей і выедзьма на тую ноч". Таму вось тата астаўся ў жывых, а за яго згінулі дзедка з бабкай — бацькі маёй мамы, бо то нехта падказаў, што адсутны зяць; ну і забілі бацькоў маёй мамы Марыю і Андрэя Кастэрэваў. Перад расправай бабуля пацяшала малодшых, паўтараючы, што яны невіноўныя, што адбудзецца разгляд справы і віноўных знойдуць...

Пасля ўсяго гэтага трэба было неяк уладзіцца, прапісацца, бо калі сагналі ўсіх жанчын, што асталіся з дзеткамі на руках, немцы загадалі развезці па іншых гмінах. Старэйшых дзетак, ад дзевяці гадоў, пагналі прыкладамі ў самаходы і пасля павывозілі ўглыб Рэйха, і некаторыя з іх пасля нават і не ведалі як вярнуцца ў сваю вёску, бо не ведалі, ці яна існуе, блукаліся яны па Нямеччыне. А жанчын з дзяцьмі на руках развезлі па іншых гмінах. І мая сям'я трапіла ў вёску Хаева, што ў Боцькаўскай гміне — там жыла наша далёкая-далёкая радня Жукоўскіх. Тады там немец загадваў прымаць выгнаных раян. Мабыць, тады немцы тым гаспадарам давалі нейкі надзел харчовых прадуктаў — хлеба, цукру ці т.п. Мне было тады няпоўныя два годзікі, сястры тры, а мама з татам мусілі там памагаць гаспадарку абрабляць, бо ж з чагосьці трэба было жыць. І трэба было там прапісацца, і трэба было падумаць, як прапісацца, калі мужчына астаўся пры жыцці. А было ж па-рознаму. Трэба было падысці да таго камісара, нават з подкупам — хто з мёдам, хто як даў рады. Трэба было патлумачыцца, чаму мужчына ў жывых астаўся. Тут быў выхад, бо некаторыя раяне жылі на калёніях і маглі даказваць, што жылі на калёніі, а не ў вёсцы, таму не былі ахоплены аблавай. І так прапісваліся па тых іншых гмінах, а быллі ж нашы выселены і ў Боцькаўскую гміну, і ў Браньскую, і ў іншыя. Павывозілі так, каб не бачылі сваёй вёскі. Бо ўсё, што тут асталося, гарэла — свінні на пажарышчах сталі паабсмальваныя. Толькі кароў павыганялі і пасля, напрыклад, на рынку ў Боцьках прадавалі раенскіх кароў: нашы жанчыны падыходзілі і пазнавалі свой дабытак, але нельга было яго ўзяць...

І так з 1942 года туляліся па тых чужых вёсках. Людзі там добрыя былі, спачувалі бежанцам у іхнім горы. А з нашых, хто даў рады рабіць, той памагаў на гаспадарках, а, для прыкладу, старыя жанчыны дагледалі дзяцей.

Калі ў 1945 годзе закончылася вайна, трэба было вяртацца ў сваю старонку. Кожны ж разумеў, што дзеткі будуць расці, што трэба іх гадаваць, трэба карміць, трэба вучыць. Сталі вяртацца ў бок сваёй вёскі. А тут быў жах, тут камень на камені не астаўся, тут брук нават вырвалі, усе дрэвы павырывалі і папалілі — не было тут ніводнай хацінкі, каб хто мог вярнуцца на сваё.

Мая сям'я вярнулася ў вёску Гусакі, што тры кіламетры ад Райска. І многа такіх было, што перакачавалі ў найбліжэйшыя вёскі. І з тых вёсак сталі сюды прыязджаць і зямлю калупаць. А якое ж гэта было земляробства, калі не было ні каня, ні бараны, ні плуга. Але трэба было чымсьці араць і сеяць. Хто меў кажух, боты ці што, то за іх купляі якую кароўку ці што. А купляці да тых, што выязджалі ў Савецкі Саюз. І такім чынам сталі купляць — дзе карову, дзе каня і калупаць зямлю, каб з тае зямелькі нейкі хлеб здабыць. І так хто туляўся па іншых вёсках, а хто зямляначку тут выкапаў і дашок зрабіў каб дзетак схаваць. А хто і хатку нейкую стаўляў. Перавозілі мазанкі, што асталіся ад тых што выязджалі. Дзе былі нейкія недахопы, нейкія дзіры, то іх глінай заклейвалі. І так жылі ў тых курных, як курнікі, хатах, хаця цяпер то і курэй у лепшых умовах трымаюць; але ўжо быў гэта ўласны куточак.

І так сталі раяне вяртацца на сваё і той хлеб з зямлічкі здабываць. Тады не было так як цяпер, калі дзіця мае есці што захоча. А тады трэба было картофельку такому маленькаму дзіцятку на столку разрэзаць на чатыры часціны і тлумачыць: „Еж, дзіцятка, бо то картофелька, то добрае". І квасам папівалі — вада, цыбулька. Селядцоў не было, толькі лак той бралі і рабілі такую папіўку да бульбы. І так мы раслі. Многія заняпалі на здароўі, многія выйшлі з такога дзяцінства калекамі, але раслі і выспявалі.

Так было да 1949 года. А ў 1949 годзе атрымалі мы дапамогу, бо тут заснавалі калгас. Нам далі тыя трактары „Сталінцы". Тут, перад нашай хатай то не было іншых хат, бо яшчэ тады ніхто не вярнуўся, толькі насупраць тых трактароў настаўлялі. Як тыя „Сталінцы" прыехалі, то тут былі лапухі і крапіва такія, што ў трактарах толькі дымнікі было відаць. Так тады выглядала наша вёска. Але як заснавалі калгас, то хто астаўся ў жывых, тыя мацеры, і тыя хлопчыкі, што ў час расправы мелі менш за дзевяць гадоў — яны за той час тулянне ўжо крыху падраслі, і яны сталі крышку араць, сеяць, кароў пасвіць. І сталі зарабляць сабе на хлеб. І тыя калгасы паднялі нашых мам, бо мы ўжо мелі што есці. А вучыцца сталі і тыя, каму было ўжо і пятнаццаць гадоў; я, напрыклад, пайшла ў школу ў дзевяць гадоў. Тут, на ўзгорачку, пабудавалі такі барак, бо царквы не было. І ў той барак, з аднаго яго боку, прыязджалі тыя, што нам давалі веды, а з другога яго боку бацюшка малебен служыў. І так разам пачалі паднімацца з таго няшчасця. Тут з 1942 па 1945 год з зямлі нельга было апрацоўваць, бо тут усё — наша вёска, мела счэзнуць.

**— Сюды вызваленне ад гітлераўцаў прыйшло ў 1944 годзе, ці не тады сталі вяртацца?**

— Не, яшчэ перазімавалі ў чужых і толькі ў наступным годзе сталі вяртацца бліжэй свайго.

**— А ў Гусаках ваша сям'я доўга была?**

— Здаецца, адзін год. Тут з аднае сям'і дзяўчына выйшла замуж за лейтэнанта з тае часці, што стаяла недалёка нашай вёскі. І той колішні лейтэнант прыслаў сваіх салдат, якія і пабудавалі першую пасля вайны хату ў Райску; яна стаіць і да гэтай пары.

**— Вы раней мне сказалі, што адзіным чалавекам, які ўцёк з-над прыгатаванай раянам брацкай магілы быў Пётр Годзіна. А старшынём калгаса стаў Міхал Годзіна; ці яны былі нейкай раднёй?**

— Не.



Марыя Кастэрэва на даўнейшым шлюбным здымку са сваім першым мужам Андрэем Жукоўскім

**— А Міхал Годзіна, што пасля і старшынёй Грамадскай рады ў Храболах стаў — як ён захаваўся?**

— Магчыма, што быў з калёніі.

**— Ці вядома, хто капаў раянам тую брацкую магілу?**

— Там былі ямы па картофлях. А прывезлі сюды вязняў з Бельска. Тыя вязні раскапалі тыя ямы ў адну вялікую. І як немцы пастралялі нашых, тыя вязні закапалі нашу брацкую магілу. А пасля тых вязняў вывезлі ў Піліцкі лес і там іх таксама пабілі.

Пасля тае ўсяе трагедыі, як нашы жанчыны з дзяцьмі на руках сталі вяртацца, патрабавалі яны нейкай дапамогі ад дзяржавы — нейкай драўніны, каб пабудавацца, каб хаця нейкую мазаначку зляпіць. І ўзнік такі сюжэт, што Райск быў знішчаны за дапамогу савецкім партызанам. Але не былі гэта партызаны. Гэта была банда, якую складалі марадзёры, што асталіся ад разбітага ў пачатку вайны войска. Яны не былі падпарадкаваны нейкаму вярхоўнаму камандаванню, толькі дзейнічалі самапасам. Яны займаліся рабаўніцтвам, гвалтаваннем. І тая банда, што засела вакол нашай вёскі, не знайшла ў нас прытулку, у нашых жанчын. І гэта быў такі рэванш, бо тыя марадзёры былі ў далейшых мясцовасцях нават злараднічалі, што Райск за гэта расплаціцца — пасля засады на немцаў каля нашых могілак; тады ж немцы прымалі каральныя меры за такія напады. І я лічу, што тая банда, якая не падпарадкоўвалася свайму вярхоўнаму камандаванню, злорадна пабіла каля нашых могілак немцаў. Афіцыйна гаворыцца, што гэта былі невядомыя віноўнікі, што адкрылі агонь па праязджаючым нямецкім самаходзе. Гітлераўскія акупанты ў рамках рэпрэсій прымянялі пацыфікацыйныя меры ў рамках калектыўнай адказнасці. Каля нашых могілак тыя марадзёры застрэлілі двух нямецкіх мужчын і адну жанчыну, а адна жанчына была паранена. Было з імі і дзіця, якому нічога дрэннага не сталася. Жыхары Райска паспяшылі з дапамогай раненай жанчыне. Асабліва мясцовая матушка Лена Іванкевіч перавязала раны, падала цёплы чай і паклікала медыцынскую дапамогу. Заапекавалася таксама малым дзіцём. І гэтымі паводзінамі яна выратавала сваю сям'ю і жыццё нашых мацярэй і дзяцей. Апошняя падзеі сталі зачэпкай для крывавай расправы з невіноўнымі жыхарамі Райска і запужвання ўсяго наваколля. Ужо ў панядзелак 15 чэрвеня 1942 года адбыўся суд над Райскам, які вынес прысуд цалкам знішчыць вёску. 16 чэрвеня, а быў гэта аўторак, жыхароў Райска на золаку разбудзіў гул самаходаў; з боку чыгункі паказаўся браняпоезд. Вёску ачапілі эсэсаўцы, гестапаўцы, паліцаі і жандары. Людзей сагналі пад царкву, каб перасячы магчымыя ўцёкі. Ад бацюшкі Сцяпана Іванкевіча фашысты патрабавалі, каб ён паказаў камуністаў. Можа такія і былі, але як ён мог сказаць, што той камуніст, а іншы не? А пасля як жыць сярод людзей? І солтыс не паказаў, хто камуніст, і яго першага ўдарылі прыкладам. Пасля поўдня фашысты аддзялілі мужчын, да іх далучылі жанчын, чыіх мужоў тады не было дома або мацярэй, чые сыны таксама адсутнічалі; яны сталі заложніцамі за сваіх мужчын. Да гэтай групы далучылі таксама хлопцаў, якім было за шаснаццаць гадоў. Было загадана расстраляць галаву сям'і, а калі быў адсутны — заміж яго жонку або дачку. Сабралі паўтары сотні чалавек. Безабаронных людзей гітлераўцы вялі ў групах па дваццаць асоб да ям, у якіх сяляне раней зімавалі бульбу і там іх расстрэльвалі. Пасля гэтай крывавай лазні закапалі ў гэтых ямах, у гэтай брацкай магіле, сто сорак дзевяць жыхароў нашай вёскі. Яшчэ шмат часу варушылася зямля над імі, бо частку пастраляных закапалі жыўцом. Моладзь ад дзевяці да шаснаццаці гадоў вывезлі на работы ў Германію. Асталіся толькі ўдовы з дзяцьмі да дзевяці гадоў, якім загадалі пакінуць вёску так, як яны там стаялі. Усю вёску ахапіла полымя. Сарвалі брук з вуліцы, раскідалі мураваную царкву, дрэвы павырывалі з каранямі. Вёска Райск спыніла існаванне, зраўнялі яе з зямлёю. Пасля тыя дзеці вярталіся на пажарышча, як птушкі вяртаюцца да сваіх гнёздаў. Чакала іх цяжкая праца адбудовы сваёй спадчыны і пачынання свайго жыцця нанава. Дваццаць пяць гадоў працавала я ў нашым Вясковым доме культуры, прымала гасцей, якія наведвалі нашу вёску. Нашу Ізбу памяці наведвалі шматлікія экскурсіі школьнікаў, рабочых, айчынныя і замежныя. Былі напісаны песні пра нашу трагедыю.

**— Адкуль з замежжа?**

— З Савецкага Саюза і нават з Нямеччыны. Пакаленне ўнукаў тых, што прычынілі нам столькі болю прыязджае; і каюцца яны, і просяць прабачэння.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Аповесць пра сапраўднага беларуса

«Ты — беларус», — так Алёшу гаварыла найдаражэйшая на свеце маці. За немцамі ў ляўкоўскай школе вучыўся песні «Штандар наш бел-чырвона-белы». У тым жа перыядзе «Штандар» спяваў таксама атрад Беларускай самаабароны — часткі нямецкай арміі, якую ўбачыў непадалёк школы.



На З'ездзе беларусаў свету

**Аляксей Харкевіч** — 82 гады. Усімі любімы, жыццярадасны, добры, прыгожы, малады душой і целам. Жыве сам ва ўтульнай і чыстай кватэрцы на чацвёртым паверсе гайнаўскага жылога блёка. Хапае сіл, каб па некалькі разоў у дзень сысці згары ўніз, і яшчэ дапамагаць напалову малодшым суседзям. Вось адной былой вучаніцы нагу ў гіпс узялі. Хто прынясе ёй булачкі на сняданак? Вядома, Алёша. У царкоўным хоры не хапае мужчынскіх галасоў. Хто паратуе? Вядома, Алёша. Маладых, нявопытных дзеячаў гайнаўскага беларускага музея падтрымае хто? Алёша. І так далей, і так далей. Заўсёды выдатна спраўляўся са шматлікімі задачамі і абавязкамі, у тым ліку прафесійнага вайскоўца, настаўніка і беларускага грамадскага дзеяча.

— Здаецца, надыходзіць час адпачынку, — прарочыць спадар Алёша. — Але ж як тут адысці, калі просяць застацца.

Вось ён такі. Не хоча славы, надта не любіць звяртаць на сябе ўвагі і, як паказвае жыццё, лягчэй яму рабіць, чым гаварыць.

Без слоў падсоўвае мне беларускія кніжкі і календары, у якіх ужо пра яго напісалі.

— Тут усё ёсць. Чытай.

— Выбачайце, але сціплыя біяграфічныя заметкі не заступяць кантакту з жывым чалавекам, — тлумачу майму субяседніку.

Прымушаны абставінамі, па чарзе выцягвае са стала дыпломы, медалі і здымкі. Здымкаў у яго сапраўды шмат. На іх толькі радасць і паўната жыцця. Маю ўвагу прыцягвае «Дружба народаў»: Алёша — прыгожы, быццам з журнала, польскі жаўнер палымяна цалуецца з не менш прыгожай савецкай салдаткай.

— А дзе ж вы, мае даражэнькія, дзе ж вы... — хвалюецца, пахіляючыся над здымкамі даўно ўжо памерлых кампаньёнаў, бацькоў, дарагой сястры. — Не помню, калі апошні раз туды заглядаў. Здаецца, праз цябе вазьмуся ў канцы за парадкаванне.Трэба гэта неяк усё паскладаць, падпісваць.

— Абавязкова. Найлепш перадаць у музей. Ваш лёс гэта ж кавалак нашай гісторыі, гісторыі нашых беларусаў.

Вас ужо можна запытаць: — Скажыце, навошта нам яно, гэтае жыццё?

— А я сам над гэтым часта задумваюся. Не ведаю, мабыць на тое, каб як найбольш зрабіць. У жыцці трэба рабіць. Яно так хутка пралятае. Я не аглянуся, а ўжо прыйдзецца паміраць.

— А ці пасля нешта будзе?

— Ой, вельмі я сумняваюся. Праўдападобна нічога.

Тут спыняюся ў сваіх занатоўках. Бяру тэлефон і набіраю нумар Алёшы, папросту ад звычайнай тугі па блізкім чалавеку.

— Як вам сказаць, — неспадзявана і няўпэўнена гучыць у тэлефоне голас яго суседкі — былой вучаніцы. — Алёша ўжо ніколі не адбярэ вашага званка...

— Усе могуць адысці, толькі не Алёша, — думалі пачуўшы страшную навіну яго сябры і знаёмыя. — Як жа ён мог нас пакінуць, што ж гэта цяпер з намі будзе?

Застаўся ў іх сэрцах і думках. Засталася аповесць запісаная тыдзень перад радасным, пасхальным перыядам, у якім Алёшу паклікаў да сябе Гасподзь — аповесць пра сапраўднага чалавека, сапраўднага беларуса.

Алёша Харкевіч нарадзіўся яшчэ перад вайной, у роднай хаце ў Лешуках, што ў Нараўчанскай гміне.

— Яшчэ жыў тады дзед Сімяон, — успамінае Алёша. — У 1942 годзе з-за дзейнасці партызан Карпюкоў цэлая вёска была выселена немцамі. Нас вывезлі ў беластоцкія лагеры. Надта мне там смакавала кава з чырвоных буракоў, — жартуе. — Кругом былі драты і нямецкія вартаўнікі. Мы, дзеці, вылазілі праз тыя драты, каб хаця палізаць пакінутыя немцамі банкі з-пад кансерваў. Часам па нас стралялі, некаторых паранілі, іншых пазабівалі, — гаворыць з характэрнай яму дыстанцыяй да жыцця.

Потым перавялі іх у цэнтр Беластока, непадалёк белага касцёла і гета. Тры сям'і ў адным памяшканні. Бацька працаваў на фабрыцы, а Алёша ганяўся па вуліцах у трусінай шапцы з навушнікамі, саматканым паліто і валёнках. Упершыню пабачыў касцёл, чапляўся на плот гета, каб пагледзець, што там адбываецца. Тут жа падхапіў халтуру — «цутрагэн», што абазначала насіць немцам пакункі.

— Заплаціць, дасць выспятка альбо сабакам нацкуе, — успамінае спакойна жудасныя будні.

Зарабіўшы некалькі фенігаў, пёрся на рынак за дранікамі. Аднойчы сам паспрабаваў таргавацца. Немец з сабакам, а ён з пачкай знойдзеных папяросаў. Ні папяросаў, ні грошай. Затое нямецкі сабака чуць яго не загрыз. Да слёз напалохаўся тады малы Алёшка.

З надыходам фронту Харкевічы вярнуліся ў родную вёску. Не было дзе жыць. Іх хату нямецкая ўправа прадала некаму з Ломжы. Спыніліся на ляшуцкай калёніі ў маміных бацькоў.

— У дзядулі карова была і такі файны конь — Балік. Прыйшлося яго ў лесе хаваць, каб немцы не забралі.

Фронт адышоў ужо да Сушчы, а ў хаце ні Алёшы, ні Баліка, ні каровы. Патрывожыліся бацькі і дзяды, надумаліся адправіцца ў пошукі.

— Немцы ўцякаюць, рускія даганяюць, а мы паміж імі. Раптам цішыня. Пытаемся байцоў як нам адгэтуль вылезці.

— Уцякайце! Немцы яшчэ не закончылі, зараз зноў будуць страляць!

Давай вяртацца да дзедушкі з выратаванай каровай і Балікам.

Людзі ёсць усялякія — і добрыя, і кепскія, незалежна ад нацыянальнасці ці канфесіі. Адзін немец, узяўшы Алёшу на рукі, надта расхваляваўся, узгадаў уласнага сына, такога ж хлопчыка, з якім прыйшлося разлучыцца. Хто ведае, ці не назаўсёды. Гэта ён загадаў Алёшу схаваць у лесе каня ад немцаў.

— Як прыйшлі рускія, усё пазабіралі, нават нашага каня. Паехаў Балік. А яшчэ загадвалі газеты ім па-польску чытаць.

— Чытай, гэта ж вашыя газеты.

— А я ні халеры.

Вучыўся спачатку ў Лешуках, потым у Нараўцы. Хадзіў пехатаю 12 кіламетраў у адзін бок. Здарылася, што і два разы ў дзень туды ганяўся.

— Рабілі мы тэатр «Пан Твардоўскі». Трэба было за Твардоўскага ў нейкі халат пераадзецца. У Лешуках я нічога такога не знайшоў. Тады выгналі мяне са школы пашукаць яшчэ раз. Давай я па вёсцы шукаць якога-небудзь шлафрока. Ну і знайшоў, і папёрся назад у Нараўку.

У гайнаўскі беларускі ліцэй паступіў у 1948 і закончыў паспяхова ў 1953 годзе. Штодня ў час пераклічкі рапартаваў гатоўнасць класа да заняткаў.

— Тады існавалі ўжо два ліцэі: каталіцкі і беларускі. У наш ішла толькі вясковая моладзь. Уся інтэлігенцыя вучылася ў польскім ліцэі. Нейкія госці з Варшавы разам з мясцовымі АКаўцамі адпраўлялі нас да Сталіна, а ў час заняткаў кідалі камянямі ў вокны.

Таму бацькі баяліся адпускаць яго ў беларускую школу. Баяліся бандаў, якія «чысцілі» навакольныя вёскі, хацелі, каб застаўся на гаспадарцы.

— З «Лупашкам» я калегаваўся, — смяецца. — А чаму? Калі Шура вярнуўся з Прусіі, на крок яго не адступаў. Ой як за руку мы з ім трымаліся. Спалі на сене, у такой шопцы-абарозе. Раптам уначы нехта вялікі з аўтаматам над намі стаіць. Зрываемся, што за халера.

— Шурка, гэта ты? — загаварыў чалавек з аўтаматам.

— Вацэк, гэта ты?

Вось так сустрэліся калегі са свіслацкай гімназіі. На раніцы «Лупашка» загадаў маці зварыць ім есці. Селі за стол перахрысціліся і заспявалі: «Automat w ręce weź i wszystkich komunistów z ziemi znieś».

— Але вы мяне такой малітвы не вучылі, — сказаў бабулі Алёша.

— Сціхні, — расстроілася бабуля.

— Panie Aleksandrze, — звярнуўся да Шуркі «Лупашка», — pan nie ma pracy, zapraszamy do nas, do armii.

— Не ідзі, Шурка, не ідзі, — асцерагаў узводны камандзір Вацэк. — Гэта ўжо не армія, а звычайныя банды, якія забіваюць цывільных, жанчын і дзяцей. І мы гінем, і нявінных людзей забіваем.

Вацлава Немцуновіча, псеўданім «Слон», праўдападобна расстралялі за Бельскам. Сказалі, што зрабіла гэта УБ. Потым дзядзька Шура даведаўся, што Вацка прыбралі свае, за асцярогу.

Нягледзячы на абставіны, Алёша працягваў сваю адукацыю ў беларускім ліцэі.

Мамін брат, Шура — даваенны выпускнік свіслацкай гімназіі, пазнейшы школьны інспектар, сказаў яго бацькам:

— Няхай вучыцца, я яму памагу. Тут у вёсцы калгасы будуць, няхай лепш ідзе ў школу.

Тое ж самае гаварыў дзядзя Косця, якога вайна загнала ў Берлін — пачаткова на працу на фабрыцы, потым у савецкае войска.

— Дзень у ліцэі пачынаўся з гімна, — успамінае Алёша. — Мы глядзім, а дырэктар Васіль Дзун перахрысціўся.

— Ну, прабачце, — апраўдваўся. — Я — стары настаўнік і прывык перад заняткамі гаварыць малітву.

Алёша апынуўся ў ліку самых першых выпускнікоў беларускага ліцэя.

— Вы будзеце апорай Народнай Польшчы, — сказаў ім на развітанне Дзун.

І праўда, большасць з іх стала настаўнікамі.

З ліцэя Алёша адправіўся ў афіцэрскую школу дзеля ўмацавання абароны Польскай Рэчы Паспалітай. Афіцэрскі досвед выкарыстаў потым у працы ў школе, дзе вучыў абароннай падрыхтоўцы. Кар'еру настаўніка пачаў у Лешуках. У тым часе спраціўся з гадавымі педагагічнымі курсамі ў Беластоку, з абароннай педагогікай у Быдгашчы і з фізічным выхаваннем у далёкім горадзе Рацібуж.

Куды б не паехаў, заўсёды бачылі ў ім беларуса.

— Папаў я ў той Рацібуж, а там па-нямецку гергечуць, — успамінае сваё здзіўленне. — Пытаюць адкуль я. На вялікай карце, якая вісела на сцяне, паказаў я свае Лешукі. Татарынам мяне назвалі. Тады пра татараў я толькі ў тыднёвіку «Przekrój» чытаў, а ў Саколцы ўвогуле не быў.

— Хто тут беларус? — адазваўся Ромэк — гісторык, якому УПА цэлую сям'ю вырэзала.

Паланісты нават беларускіх паэтаў ведалі, гаварыць па-беларуску я іх вучыў. А на Сільвестра ці на ўроках музыкі трэба было па-нашаму спяваць.

Гэта здарылася на практыцы ў школе. Надта я хваляваўся, убачыўшы варшаўскую камісію. Але як разгуляўся з дзяцьмі, забыўся кім я ёсць і дзе знаходжуся. Пасля праведзенага ўрока чую:

— Прабачце, а скуль вы?

— З Беласточчыны.

— Гэта адразу відаць. Мы таксама з усходу, я сам з Львова, а вось мая калега — з Вільні.

На курсах абароннай педагогікі ў Быдгашчы адзін прафесар сказаў яму:

— Ты ж беларус, наш саюзнік. Тут павінны цябе на руках насіць.

Тады якраз нараджалася «Салідарнасць», а Быдгашч знаходзілася ў яе эпіцэнтры.

— Што ж гэта будзе? — трывожыўся Алёша. Палкоўнікі, ягоныя акадэміцкія настаўнікі, палохалі:

— Няхай толькі каторы з вас спрабуе далучыцца!

На Алёшу гэта задзейнічала як радно на быка. Надта захацелася яму схадзіць да слаўтага Валэнсы і яго каманды. Усё пабач, дастаткова працягнуць руку. Адна баба з чыгуначнага вакзала таксама туды лезла. Так пёрлася, ажно ўпала. А Валэнса так і нічога талковага не сказаў. Расчараваны Алёша ўгаварваў калег-аднакурснікаў схадзіць у галоўнае бюро «Салідарнасці».

— Мо значкі якія дастанем, — заахвочваў.

У бюро ўвайшоў у савецкай шапцы з чубом, як рэвалюцыянер у час рэвалюцыі.

— Скуль вы? — пытаюцца яго ў бюро.

— У вас нас яшчэ няма. Зараз вам нарыхтуем усё, што трэба. Вы раскруціце беластоцкую «Салідарнасць».

— Не туды папаў я, — падумаў Алёша. Не вытрымаў і ўцёк.

працяг ☞10

9 ☞ працяг

# Аповесць пра сапраўднага беларуса





■ На суботніку

■ Родная хата Алёшы Харкевіча ў Лешуках

Як заўсёды, вярнуўся ў родныя Лешукі. Раней вяртаўся, каб ліквідаваць пасляваенную непісьменнасць. Пры вячэрняй школе для дарослых сарганізаваў тэатральна- вакальны гурток. Цяжка было старэйшым за настаўніка вучням паддавацца ягоным інструкцыям. Спацеў бедны Алёша, пакуль навучыў іх правільна акцэнтаваць «на складзе». Усё такі навучыў. З выступленнямі аб'ездзілі ўсе навакольныя вёскі і гарадкі. Сам Алёша так у гайнаўскім доме культуры «Ляснік» танцаваў лявоніху, што ажно са сцэны зляцеў.

Адслужыўшы пятнаццаць гадоў у роднай вёсцы, пераняў абавязкі каменданта атрада Саюза польскіх гарцэраў у Гайнаўцы. Чатыры гады быў павятовым візітатарам. Вучыў у гайнаўскіх ліцэях і комплексе прафесійных школ. Потым надзялілі яму цэлы штат у беларускім ліцэі. Там заснаваў калектыў «Гайтон».

— Што ты зноў выдумаў? — прычапіўся да Алёшы тагачасны дырэктар ліцэя Валодзя Стэпанюк.

У Доме настаўніка знайшоў ужываныя музычныя інструменты, якія разам з членамі «Гайтона» перавезлі ў ліцэй. Схавалі іх пад лесвіцай.

— Што ты прывалок сюды? — не даваў спакою дырэктар.

Дагаварыўшыся з прыбіральшчыкам, перанеслі інструменты ў яго невялікі пакойчык. Там хутка ўсё падстроілі, падклеілі і ўзяліся за музыку. У калектыў прыйшло восем дзяўчат. Тадышні дырэктар ліцэя таксама прывалокся. Мерапрыемства з нагоды Дня жанчын. Хлопцы зараз павыцягвалі інструменты.

— Гэта яны ўжо так іграюць? — надта здзівіўся Стэпанюк.

Цяпер не пашкадаваў грошай на новыя інструменты. Калектыў квітнеў. З канцэртамі ездзіў нават на фестываль украінскай песні ў Гданьск. Потым частка «Гайтона» пераўтварылася ў славутыя «Дубіны», а чарговыя пакаленні ліцэістаў спяваюць у «Знічцы».

Заўсёды напярэдзе, да і пасля палітычных перамен. У Лешуках кіраваў пабудовай школы, дапамагаў будаваць вясковую краму, малачарню, дарогі. Будаваў у Гайнаўцы, спярша беларускі ліцэй, потым беларускі музей. Разам з Майсенем рабілі нешта з нічога.

Некаторыя смяяліся, што ўзяліся за пабудову без грошай, але вучні заўсёды падтрымлівалі. Усё атрымалася. І «Культура на сходах», «І там жывуць людзі». Усё ў адпаведнасці з духам часу. У дзеяннях перамаглі нават сваю асноўную канкурэнцыю — БГКТ. Пры нагодзе надта пасябравалі з Беларуссю. На З'ездзе беларусаў свету Алёша выпіваў нават з Шушкевічам. Пазнаёміўся таксама з мітрапалітам Філарэтам.

На працу з дзяцьмі і моладдзю ніколі не наракаў. Гэта было самае важнае і самае дарагое ў яго жыцці. Ішоў з імі, спазнаваў іх думкі, быў заўсёды побач. Дзякуючы дзеткам ніколі не пастарэў, не сумаваў. Называў іх сваім эліксірам маладосці.

— Моладзь у мяне заўсёды была добрая. Дзеткі нават па царкоўных харах за мною ходзяць. Я цэлае жыццё з гэтымі малымі, бачыў як дарасталі. І далей з імі жыву. Адно ў мяне за сцяной. Прыйдзе і як пачне ўказваць: тут у цябе тое трэба памяняць, тут тое не так. Зайду да дантысткі, а яна: вось цяпер вы мне папаліся! Разышліся яны па цэлым свеце, але цяперашняя гайнаўская ўправа гэта ўсё нашы вучні.

Кепска атрымалася яму толькі роля сакратара партыі.

— Ты — сакратар, а чаму ты па-беларуску гаворыш? Мы цябе паставілі і мы цябе здымем, — павучалі яго партыйныя начальнікі. Дасталася яму і за вучнёўскую беларускую газетку.

Хутка, яшчэ ў дзяцінстве, пасталеў, але тое, што самае найлепшае ў дзіцяці, захаваў да канца.

— Заўсёды трэба быць сабой, — маўляў. Сам выбіраў сваю дарогу, сам па ёй ішоў.

Добра пражытае жыццё, добрая смерць. А мне — вялікае шчасце паявіцца на ягонай дарозе.

— Алёша, вечная Табе памяць!

Іаанна ЧАБАН

# http://www.hist.bsu.by/2ww




Семдзесят гадоў таму для Еўропы скончылася Другая сусветная вайна. Для некаторых іншых краін у іншых частках свету яна яшчэ працягвалася, але для еўрапейскіх дзяржаў ужо пачыналася мірнае існаванне. Так склалася, што за пампезнымі афіцыйнымі святкаваннямі, што цяпер з гэтай нагоды практыкуюцца ў Беларусі, неяк зусім не згадваюцца прычыны той страшэннай вайны, якую ў 1939 годзе развязалі дзве таталітарныя дзяржавы — гітлераўская Германія і Савецкі Саюз. Прычыны ляжаць навідавоку, але іх стараюцца не называць — цкаванне іншадумства і грэбаванне правамі чалавека. Усё астатняе, што здарылася — мільёны загубленых жыццяў, Хатынь і Майданэк, Аўшвіц і Катынь, і гэтак далей — толькі вынікі антычалавечай палітыкі ў згаданых краінах у сярэдзіне мінулага стагоддзя. І самым галоўным напамінам аб гэтым з'яўляюцца тыя, хто не перажыў вайны, і згадванне аб іх мусіць стаць першым і галоўным чыннікам, які робіць перамогу ў той вайне святам са слязамі на вачах.

Пэўна, калі б не было сучасных тэхналогій, звычайнаму чалавеку цяжка было б знайсці дзесьці ў архівах нейкую згадку пра палеглых ці загінуўшых без вестак сваякоў. Цяпер жа ў Беларусі ствараецца электронны архіў, куды заносяцца іх прозвішчы. Месціцца ён у інтэрнэце па адрасе **http://www.hist.bsu.by/2ww** і належыць гістарычнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ). Праўда, пакуль гэтых імён і прозвішчаў не надта многа — на дадзеным этапе — толькі з Мінскай вобласці Беларусі.

„Паважаныя наведвальнікі! На першым этапе інфармацыйная сістэма папаўняецца запісамі аб воінах-земляках і партызанах Мінскай вобласці, якія загінулі ці прапалі без вестак на франтах Другой сусветнай вайны. На другім этапе будуць унесены запісы аб воінах-земляках і партызанах іншых абласцей Беларусі, а таксама аб воінах-земляках, якія вярнуліся з вайны, і мірных жыхарах — ахвярах фашысцкага тэрору. База будзе папаўняцца рэгулярна. Таму, калі Вы не змаглі знайсці патрэбнае Вам прозвішча, паспрабуйце зрабіць гэта праз некаторы час", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта-архіва.

Адметна, што ўласна сайт гістарычнага факультэта не мае беларускай версіі, толькі рускую і англійскую. Але яго „архіўнае" адгалінаванне выкладзена па-беларуску. Пры гэтым на сайце пазначаецца, што ў адмысловых кнігах „Память", якія ўзяты для стварэння данага архіва, выкарыстоўваюцца як беларуская, так і руская мовы. Таму распрацоўшчыкі сайта-архіва раяць ажыццяўляць пошук на абедзвюх мовах.

Гэтае пачынанне без перабольшвання вельмі добрае, бо хтосьці, магчыма, знойдзе свайго зніклага ці загінуўшага родзіча. Пры гэтым распрацоўшчыкі сайта прызнаюць, што ў нейкіх даных могуць быць памылкі, і таму просяць паведамляць ім аб гэтым.

Разам з тым, падаецца, што далёка не ўсе прапаўшыя без вестак ці загінуўшыя ўнесены ў кнігі „Память", нават калі гаварыць пра Мінскую вобласць. Таму спадзяванні ўладальнікаў сайта выключна на адну крыніцу інфармацыі цяжарныя прабеламі ў выніках працы. Так, аўтар даных радкоў не знайшоў там імя свайго дзеда, жыўшага ў Мінскай вобласці, які прапаў без вестак у красавіку 1945 года пад Берлінам, аб чым распавядаецца ў абагульненым банку даных „Мемарыял" на сайце расійскага міністэрства абароны.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Даследнік беларускага краязнаўства і мастацтва

# 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая КАСПЯРОВІЧА

Беларускі краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец і літаратуразнавец Мікалай Каспяровіч нарадзіўся 22 траўня 1900 г. у вёсцы Ізабалёва Ігуменскага павета (цяпер Пухавіцкі раён). У 1915-1917 гг. знаходзіўся ў бежанстве ў Кастрамской губерні Расіі, вучыўся ў Кастрамской мужчынскай гімназіі. У 1917-1921 гг. настаўнічаў у Ігуменскім павеце, у 1919-1920 гг. — інструктар Часовага беларускага нацыянальнага камітэта і Цэнтральнай беларускай школьнай рады, арганізаваў і быў першым старшынёй Ігуменскіх павятовых беларускага нацыянальнага камітэта і школьнай рады, удзельнічаў у антыпольскім падполлі. У 1918-1920 гг. вучыўся ў Мінскім беларускім педагагічным інстытуце, у 1921-1922 гг. — у Беларускім дзяржаўным універсітэце, адкуль быў выключаны. Скончыў Мінскі інстытут народнай асветы. Быў сябрам арганізацыі „Маладая Беларусь".

Мікалай Каспяровіч у 1918-1924 гг. быў сябрам Мінскага таварыства гісторыі і старажытнасцей. З 1921 г. — інструктар Наркамасветы БССР, з 1922 г. — інспектар Слуцкага, з 1924 г. — Віцебскага аддзелаў народнай асветы. З 1926 г. — навуковы сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, сакратар краязнаўчага часопіса „Наш край". Пры яго кіраванні выйшлі ў свет „Беларуска-расійскі слоўнічак" (1925), „Віцебскі краёвы слоўнік" і „Слоўнічак уласных найменняў" (1927). Пісаў Каспяровіч пра гісторыю краязнаўчай працы ў Беларусі, яе задачы і методыку, даследаваў гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва, архітэктуру, сучасную графіку. Вядомыя яго навуковыя артыкулы „Беларускае мастацтва ў Польшчы (XIV-XVI стст.)", „Асноўныя моманты гісторыі беларускага дойлідства", „Мінск у графіцы А. М. Тычыны" і інш.). Цікавіўся гісторыяй тэатра, навукі (нарысы „Уладзіслаў Галубок", „Беларускі тэатр у Гродна", „Беларуская навука да Кастрычніка і пасля яго", „Беларуская культура: да дзесяцігоддзя абвяшчэння БССР"). Склаў бібліяграфію твораў Каруся Каганца, даследаваў асобныя праблемы развіцця беларускай літаратуры (нарыс „Карусь Каганец", артыкулы „Матывы барацьбы ў творчасці Максіма Багдановіча", „Беларуская літаратура ў Латвіі"). Укладальнік першага беларускага дапаможніка па тэорыі літаратуры „Узоры для літаратурных гурткоў пры „Маладняку" і гурткоў селькораў" (1927).

Мікалай Каспяровіч — яшчэ адзін беларускі талент загублены савецкай сталінскай сістэмай. Арыштаваны ДПУ БССР 29 чэрвеня 1930 г. па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Па пастанове АДПУ СССР ад 10 красавіка 1931 г. зняволены ў лагерах тэрмінам на 5 гадоў. Быў у канцлагеры Асінкі (Кемераўская вобласць). Пасля вызвалення ў 1935 г. жыў у Новасібірску, выкладаў рускую мову і літаратуру ў тэхнікуме сувязі. Паўторна арыштаваны 28 жніўня 1937 г.; па пастанове ад 17 снежня 1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Расстраляны 26 снежня 1937 г. Па першым прыгаворы рэабілітаваны ў 1960 г., па другім — у 1958 г.

Памяць пра Мікалая Каспяровіча ўшанавана ў Віцебску — 21 траўня 2013 г. на доме № 4 па вуліцы Крылова была ўсталявана мемарыяльная дошка.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

"Piwnica Kulturalna"
Stowarzyszenie AB-BA — Аб'яднанне АБ-БА
"Склеп з культурай"

АБ БА

## ЗАПРАШАЕМ

**22.05.2015 (пятніца)**

у 18[00] у Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА на Дыскусійны клуб АБ-Бы

### „Пагаворым пра веснавыя абрады і музычныя традыцыі"

Сардэчна запрашаем на сустрэчу з **Вікторыяй МІХНО** — спявачкай, лідаркай гурта „Гуда", дырэктаркай школы традыцыйнага мастацтва

**Пачатковая школа № 4 у Беластоку вул. Чэнстахоўская, 6а**

Projekt realizowany dzięki dotacji Marszałka Województwa Podlaskiego

# Хобі наравучаніна Рамана Маліноўскага

**Раман Маліноўскі** — жыхар Нараўкі Гайнаўскага павета ўжо два гады стварае вялікі макет колішняга прыгожага царскага палаца ў Белавежы (гэты здымак зроблены сёлета ў канцы красавіка ў хаце мадэліста). Жыве ён сам. У мінулым годзе памерла яго маці (была яна родам з Лешукоў). У 2013 годзе фотарэпарцёру ўдалося пагутарыць з маці Рамана Маліноўскага (сына не застаў дома — быў з сябрам на рыбалцы). Ён зрабіў тады фотаздымкі некаторых прац спадара Рамана ў яго адсутнасць.

Цяпер майстар-мадэліст працуе амаль кругласутачна. Хоча завяршыць «пабудову» праз чатыры месяцы — у кастрычніку. Зараз накрывае дах макета палаца лускавінкамі яловых шышак. Дзеля адпачынку ўсё ж ездзіць з вудамі на рыбалку. Гэта яго другое любімае хобі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## DNI PIŚMIENNICTWA SŁOWIAŃSKIEGO
## ДНИ СЛАВЯНСКОЙ ПИСЬМЕННОСТИ

### Bielsk Podlaski 23-24 maja 2015

23 MAJA (SOBOTA)

MUZEUM MAŁEJ OJCZYZNY W STUDZIWODACH

14.00 - Seminarium muzykologiczne: Dawna muzyka cerkiewna i tradycyjny śpiew Polesia, z udziałem śpiewaków ze wsi Staszany i Leśniki (Polesie, Białoruś). Seminarium prowadzi Marcin Abijski oraz Doroteusz Fionik

CERKIEW POKROWSKA W BIELSKU PODLASKIM (ul. Reymonta 6 /nieopodal ul. Dubiażyńskiej)

17.00 - Całonocne Czuwanie, śpiewane bizantyjskimi melodiami. Śpiewa Marcin Abijski z chórem kameralnym im. Bohdana Onisimowicza

24 MAJA (NIEDZIELA)
DZIEŃ ŚW. ŚW. CYRYLA I METODEGO

CERKIEW POKROWSKA W BIELSKU PODLASKIM

10.00 – Liturgia Święta, śpiewana melodiami Irmologionu Supraskiego. Śpiewa chór kameralny im. Bohdana Onisimowicza pod dyrekcją Marcina Abijskiego

PLAC RATUSZOWY W BIELSKU PODLASKIM

12.00 - 17.00 ŚWIĘTO KSIĄŻKI: Prezentacja wydawców - Kiermasz Książki
Pokaz dawnej sztuki drukarskiej, przygotowany przez Muzeum Sztuki Drukarskiej i Papiernictwa w Supraślu
Uhonorowanie białoruskiego poety Wiktora Szweda, z okazji 90-lecia urodzin
Otwarcie wystawy, poświęconej 100. rocznicy Bieżeństwa
Koncert wykonawców z Polski, Białorusi i Litwy
Zwiedzanie wystaw w Muzeum w Ratuszu

W KIERMASZU KSIĄŻKI wezmą udział m.in:
Wydawnictwo Warszawskiej Metropolii Prawosławnej
Wydawnictwo „Bratczyk" (Hajnówka)
Bractwo Prawosławne Trzech Męczenników Wileńskich (Mińsk)
Wydawnictwa z Białorusi
Wydawnictwo „Sąsiedzi" (Białystok)
Wydawnictwo „Pogranicze" (Sejny), Wydawnictwo „Stopka" (Łomża)
Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku
Białoruskie Towarzystwo Historyczne i Kamunikat (Białystok)
Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża"
Rada Programowa Tygodnika Białorusinów w Polsce „Niwa" (Białystok)
Fundacja im. Księcia Konstantego Ostrogskiego, „Orthdruk" (Białystok)
Muzeum Małej Ojczyzny w Studziwodach

Wykonawcy:
Chór Bractwa św. Cyryla i Metodego (Bielsk Podlaski)
„Histrion" i „Hamanina" (Mińsk)
Zespół sióstr Łukianowicz ze wsi Leśniki k. Drohiczyna Poleskiego
„Czabatuchi" (Staszany k. Pińska)
„Chocisławianie" i „Tabała" z Chocisławia k. Małoryty
„Bylina" (Wisaginas)
„Podlaszanki" (Gorodzisko)
„Malanka" (Bielsk Podlaski)
„Żemerwa" (Studziwody)

Organizator: MUZEUM MAŁEJ OJCZYZNY W STUDZIWODACH www.fb.pl/studziwody

Wydarzenie zorganizowano w ramach XII Podlasko-Poleskich Spotkań w Tradycji TAM PO MAJOWUJ ROSI

Zrealizowano przy wsparciu finansowym: Ministerstwa Administracji i Cyfryzacji, Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego

Współorganizatorzy: Parafia Prawosławna Opieki Bogarodzicy w Bielsku Podlaskim, Bractwo Prawosławne św.św. Cyryla i Metodego, Koło Terenowe w Bielsku Podlaskim, Muzeum Sztuki Drukarskiej i Papiernictwa w Supraślu, Muzeum w Bielsku Podlaskim, Oddział Muzeum Podlaskiego, Centrum Kulturalne Białorusi, Bielski Dom Kultury, Katedra Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku, Fundacja im. Księcia Konstantego Ostrogskiego

# 24.05 — 30.05

**(22.03. — 20.04.)** 25-29.05. сагрэешся да барацьбы, паставіш на сваім, прыбудзе табе адвагі і бравады, што паможа табе здзейсніць нейкі важны праект. 28-29.05. будзеш больш ахвотны пайсці на кампраміс, палагодзіш спрэчкі і канфлікты. Але 23-27.05. можаш уключыцца ў праект без будучыні; не давярай раптоўным імпульсам, бо гэта можа блага кончыцца.

**(21.04. — 21.05.)** 23-27.05. ахвота да раптоўных вырашэнняў, вынікі якіх могуць аказацца быць пагубнымі; пільнуйся! Не пазычай і не бяры ў крэдыт. Слухай парад Рыб, разлічвай на падтрымку Быка. Шалі могуць ад цябе адвярнуцца, а Дзева выкарыстае тваю пазіцыю. Не зайздросць Казярогу, ён табою захапляецца!

**(22.05. — 22.06.)** 27-31.05. — добры час на вырашальныя дыскусіі і дамовы; будуць цябе слухаць. У тваёй душы зноў засвеціць сонца! Кашалёк таксама не павінен быць пусты. Пакажашся ў добрым святле перад кіраўніцтвам. Можаш пазмагацца за павышэнне.

**(23.06. — 23.07.)** Добры час вырвацца з незадавальняючых адносін. Запаволь тэмп у кампанейскім жыцці. Больш адпачывай і зрабі штосьці, што дазволіць табе адарвацца ад праблем. Адпусці спальваючыя эмоцыі! Асабліва, калі твой шэф — мужчына, не спрачайся, выконвай пільна свае абавязкі. Калі хочаш зусім змяніць ход сваёй кар'еры — адважна прымай новыя выклікі, маеш шанц паправіць свой быт.

**(24.07. — 23.08.)** Ініцыятыва ў сардэчных справах належыць да цябе. Сам актыўна пашукай братняй душы, выйдзі з прапановай, патэлефануй. Кожнае тваё дзеянне будзе прынята з энтузіязмам. Чакаюць цябе нейкія новыя абавязкі на працы, бярыся за іх — будзеш мець ад гэтага выгоду. Прытым не канфліктуй з супрацоўнікамі.

**(24.08. — 23.09.)** Шмат спраў убачыш у новым святле. Добры час, каб бараніць сваю думку і ўводзіць свае прынцыпы. Раптоўна паправіцца аўра вакол цябе. Дзеці папросяць у цябе падтрымкі. Але 23-27.05. не ўкруціся ў нейкае небяспечнае знаёмства. У апошнія дні можа пагоршыцца твой настрой, паявяцца сумненні. Старайся захаваць раўнавагу. Дамоўся на кантрольныя абследаванні ў лекара.

**(24.09. — 23.10.)** 25-29.05. нагоды для наладжання новых кантактаў, знаёмства з вельмі цікавымі людзьмі. Хаця тыя знаёмствы можа не будуць трывалымі, але будуць каштоўнымі, многаму навучышся. Магчымыя аварыі дома.

**(24.10. — 22.11.)** Слухай сваёй інтуіцыі, а неабавязкова нейкай асобы ў тваім атачэнні, якая жадае табе ненайлепш. Не адмаўляйся ад паездак — спаткаешся з даўно нябачанай асобай ці знакамітым слухачом, дзякуючы якому адчуеш сябе добра і спакойна. Варушыся, адапчывай, дбай аб здароўе — неўзабаве пабачыш добрыя вынікі. 23-25.05. пазбягай вырашання важных прафесійных спраў.

**(23.11. — 22.12.)** Рэспектуй думкі партнёра, услухайся ў яго патрэбы. Не пераборшчвай з высілкам, бо нашкодзіш сваім і целу, і псіхіцы. Добра высыпайся, практыкуйся на ўлонні натуры, адпачывай сярод каханых асоб. На працы не рабі нічога павярхоўна. Хтосьці са знаёмых будзе для цябе мець цікавую прапанову працы. Прымі яе, бо прынясе табе пазітыўную адмену ў жыцці, асабліва калі ты нарадзіўся паміж 5 і 10 снежня; цяпер будзеш мець свае пяць хвілін!

**(23.12. — 20.01.)** Да 25.05. не будзь лішне патрабавальным у адносінах да партнёра. Казярогам народжаным 5-11.01. пачуццёвае жыццё перакуліцца дагары нагамі. Памогуць табе некаторыя з сяброў. Будзеш патрабаваць іх дапамогі і зычлівасці на працы з новымі сур'ёзнымі задачамі, з якімі сам не справішся. Пільнуйся таксама ад злодзеяў.

**(21.01. — 19.02.)** 23-27.05. не ўпірайся і не адкідвай парад спецыялістаў, і не спрачайся таксама з блізкімі. Дацэніш сапраўдную вартасць і значэнне адносін з сябрамі. Ірай у латарэю! Можа спрабуеш заснаваць свой бізнес? — будзеш мець мураваны поспех. 29-31.05. выкажашся незвычайнай інтэлігентнасцю і тактоўнасцю ў кантактах.

**(20.02. — 21.03.)** 23-27.05. ахопіць цябе патрэба ўлады. Трымайся ясных правіл гульні і супрацоўніцтва. Калі хтосьці зловіць цябе на занядбаннях, наробіш сабе ворагаў. 27-31.05. лёгка будзе пасварыцца; дакладна чытай тое, што падпісваеш. Хтосьці са сваякоў будзе перажываць цяжкі час і ўсе засяроджвацца на яго праблемах; не дапусці, каб твае справы сышлі на далёйшы план.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. дугападобная палоска валасоў над вочнай ямінай = 10 _ 11 _ 16 _ 13 _ 12 _;
2. запруда для павышэння ўзроўню вады ў рацэ = 17 _ 18 _ 21 _ 22 _;
3. прадукты для ўводу ў стрававод = 7 _ 5 _ 2 _;
4. цёмная пара сутак = 1 _ 14 _ 15 _;
5. урачысты верш = 6 _ 8 _ 9 _;
6. напрыклад, інтэрніст = 4 _ 19 _ 20 _ 3 _.

(ш)

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 |
| | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Біскуп, Масты, дывізія, дакор, карамель, смалакур, чалавек, Ваўкавыск.

Рашэнне: **Скупы і з камара кроў высмакча.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# У палескай глыбінцы (2)






У адным сяле пра мой нечаканы візіт, спыталі такімі словамі:

— *Якім віэтром вас прывійело?*

Якраз у той дзень павяваў вясновы вецярок, у агародчыках і садах квітнелі цюльпаны і вішні. Вясна ў кантэксце вайны, стомленасці, безграшовасці і страху, здавалася найбольшым дабром і цудам. Мне прыемна было ў такое надвор’е расказаць пра *від ветру*, паясніць, што ў палескую глыбінку паклікалі мяне старыя песні ад сяла Пэрэброды*. У Пэрэброды ля непраходных Альманскіх балот на мяжы з Беларуссю траплю ажно ў пяты дзень падарожжа, калі зацвітуць на падмоклых лугах бела-ружовыя плахты светнiку.

А зараз, калі трымацца палескай паэтыкі, з усіх куткоў павявала дзікім жахам. Чыгуначны вакзал у Ковелі нейкія дзесяць гадоў назад прыкідваўся вялікім светам. Там дзень і ноч бурліла жыццё і кругласутачна працаваў рэстаран, да якога апрача пасажыраў цягнуліся гарадскія індывіды і *начныя маркі*, таксама вечна былі перапоўнены залы адпачынку, з-за чаго прыходзілася драмаць на драўляных крэслах сярод гутарак, храпення, кашлю і смеху, якія час ад часу заглушвалі гукі опернай музыкі, бо якраз адпраўляўся цягнік у Маскву або Севастопаль. Увесь гэты шал і прыгода, спех, смех і кашаль здаваліся сёння нерэальным сном, забытай песняй. Хоць далей чакальныя залы аздаблялі штучныя пальмы, яны ўжо застаўлялі думаць не пра прэстыж, а пра няслаўнае выгнанне з раю. На цэлым вакзале, у розных кутках, выседжвала можа пяць, можа сем пасажыраў...

Ніякая сіла не была ў змозе затрымаць мяне ў гэтым адцэджаным з энергіі месцы. Трэба было дзесьці схавацца, адтаяць ад стомленасці, адаспацца. Выпадковыя мінакі падказалі дарогу ў гатэль. Нягледзячы на суботні вечар, цэнтральныя вуліцы горада былі абезлюдзелыя, толькі зрэдку праязджалі машыны. Іх следам заўсёды нёсся тупы грукат музыкі тэхна. Дзесяць хвілін пазней я стаяла перад жаданым гатэлем. Гэта быў шэры, па-савецку неахайна збудаваны бетонны блёк, які не абяцаў нічога асаблівага, а ўжо напэўна не абяцаў гарачай вады пад душам. Прамовіла аднак яго палеска-музычная назва. Я ўвайшла ў сярэдзіну і адразу, быццам у таемна-цёмным лесе, разгубілася. Так падзейнічаў агромністы і пусты хол, з тоўстымі дубовымі разнымі калонамі, на якіх царылі лесавікі, русалкі, ваўкалакі. Мая гасцініца называлася «Лясная песня».

* * *

Украінцы, у адрозненні ад беларусаў, хочуць у кожным падарожніку пабачыць спагадлівага суродзіча, спытаюць пра сувязі з іх краінай, дэталёва распытаюць пра сваякоў, пацікавяцца адкуль ведаеш іх мову. А ўжо калі з памяці прадэкламуеш ім верш з «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі**, тады ты найлепшы госць. Цябе запросяць у хату, распавядуць пра здарэнні, навеяныя добрым або ліхім ветрам, пакормяць і цэлай сямейкай адправяць у дарогу.

У адміністрацыі, за тоўстым дубовым прылаўкам, прывітала мяне спадарыня Стасюк. Жанчына якраз трымала дзяжурства на начной змене ў «Ляснай песні».

— У вас прозвішча, як у вядомага польскага літаратара, — прыкмеціла я знакамітую выпадковасць.

— Да, ведаю, ведаю...

— Вы чыталі яго кніжкі? — я прыгадала загаловак кніг пісьменніка. Гэта не спрацавала. Спадарыня Стасюк ведала сваё пра слаўнага аднафамільца:

— Ён жа ўкраінец, а не паляк!

Я была ўражана такім паваротам справы. Сам літаратар нідзе не пахваліўся, не напісаў, што ён з казацкага роду. Мне хацелася правесці маленькі даклад на тэму прысутнасці ўкраінскіх прозвішчаў на Падляшшы, сказаць, што гэта не заўсёды спалучаецца з нацыянальнай прыналежнасцю і свядомасцю, што прозвішчы з канчаткам *-ук* з’явіліся пасля царскай рэформы напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя, і што наогул гэтае пытанне складанае і неадназначнае. Не паспела. Спадарыня Стасюк ужо спісала з пашпарта мае каардынаты (другую частку прозвішча «Свярубская», яна запісала ў рубрыцы дзе патрабавалі пазначыць імя па бацьку) і з падобным гонарам ды рашучасцю абвясціла, гледзячы дзесьці ў глыб хола з лесавікамі: — У вас украінская фамілія, вы ўкраінка!

Такі падыход зусім збіў мяне з панталыку. Падобныя пытанні і разважанні ніколі не сустрэлі мяне ў беларускіх гатэлях і інтэрнатах, наадварот, там з крайняй пададзронасцю слухалі пра нейкіх польскіх беларусаў, хваляваліся, пачуўшы беларускую мову, нават калі ў іх бок выказваліся ветлівыя і добрыя словы.

Ды яшчэ ў суродзічах з-за мяжы бачылі адных правакатараў, агентаў і шпіёнаў.

* * *

— Ты ГРУ*** ці ФСБ****? — проста з моста спытаў мяне Воўка. Але не атрымаўшы адказу, ён далей ставіў свае пытанні: — Грузінка? Жыдоўка? Расіянка?

Чамусьці ў гатэлі «Лясная песня» ўсе хацелі бачыць мяне на свой прыдуманы спосаб. Для Воўкі на гвалт патрэбная была агентка ГРУ, магчыма гэта быў правераны метад, каб пазабаўляцца комплексамі непаўнацэннасці ахвяры.

У нумары, які каштаваў восем долараў, дамінавалі адценні зялёнага колеру. З водаправодаў, як у сапраўдных лясных ручаях, цурчэла сцюдзёная вадзіца. Я прыняла халодны душ, надзела візітную блузку, распусціла валасы і пашыбавала вячэраць у рэстаран, які знаходзіўся на ніза гасцініцы. Усярэдзіне не было жывой душы. Затое шкляны буфет быў загружаны хатнімі каўбасамі і печанымі шынкамі, смажанай рыбай, чабуракамі, салатамі са свежай і марынаванай агародніцы, араматнымі кексамі і булкамі. Я заказала гаршчэчак салянкі, порцыю смажанай рыбы і любімае піва львоўскага бровара. Ды нават не звярнула ўвагі, калі разам з чалавечкам, падобным на пацука, у сярэдзіну забег Воўка. Хлапец без запрашэння залез за мой стол, ды з ходу паставіў свае касмічныя пытанні пра ГРУ і ФСБ. Пацук сеў у кутку і назіраў усё сваімі разбеганымі вочкамі. Я адклала лыжку і красамоўна ўздыхнула. Воўка праз шкуру знюхаў маё хваляванне і гэта толькі пагоршыла справу. Зараз ён рашуча дамагаўся ведаць хто я!

— Завуць мяне Марыя, — адрэкамендавалася я. Гэтае імя здалося мне менш сексуальным чым Ганна, Гандзя.

— Марыя ці Марыянна? — патрабаваў удакладнення адчуваючы нешта падазронае.

— Марыя, Марыя...

— Пытаюся, бо гэта два розныя імёны...

Каб паказаць сваю неахвоту для нашага выпадковага знаёмства, я дабыла тэлефон і пачала пісаць эсэмэскі, нібыта да сям’і, якая жыла непадалёк Ковеля і прагна выглядала майго прыезду. Праведзеная мной слоўна-тактычная аперацыя ў глыбі душы здавалася смешным, хоць неабходным, абярэгам. Мой тэлефон не дзейнічаў, не выглядала мяне ўкраінская сям’я ды яшчэ як на злосць дзесьці сышла са свайго паста буфетчыца. У такой безнадзейнасці мне заставалася адно загаварыць зубы назойліваму Воўку, дакрануцца да яго самалюбства і прымусіць, каб гаварыў пра сябе.

— Ты чаму не на вайне? — спытала я.

— Я — пацыфіст, — адказаў з іранічнай усмешкай.

Пасля гэтага расшпіліў кашулю і паказаў ружовы шрам ад нажа ці касы на салідных грудзях. Пацук, расчараваны паваротам справы, падняўся з месца і дэманстратыўна рушыў да выхаду. Калі пераходзіў ля нашага стала, ён злосна фукнуў на Воўку, але таму ўсё было да лямпачкі. Напачатку ён прызнаўся ў любві да Генрыка Сянкевіча.

* * *

Воўка паказаўся неразгаданым субяседнікам. Усё, што здарылася на працягу стагоддзяў з яго краінай, лічыў насмешкай над чалавекам. Ён ненавідзеў атаманаў і казакаў, туркаў, палякаў і маскалёў, праклінаў камуністаў, сучасных палітыкаў і алігархаў. Адзінымі справядлівымі на нашай няшчаснай планеце ён лічыў... аўтараў гістарычных і хрысціянскіх твораў а ідэалам, які спалучаў гэтыя справы, быў для яго Генрык Сянкевіч і яго векапомны раман «Quo vadis» (па-ўкраінску: «Куды ідзеш»).

— А для цябе, Марыя, — спытаў нечакана, — якая *ісціна* жыцця?

У мяне не было ахвоты весці філасофскія разважанні з Воўкам. Штосьці падказвала, каб трымаць маладзёна на адлегласць. А ўжо напэўна не хацелася гаварыць з ім пра сутнасць жыцця ў гэтым вымеценым з кліентаў бары.

— Для мяне найважнейшае надвор’е, — кінула я.

Воўка падскочыў як апараны. Ён быў расчараваны маім плыткім адказам.

— *Ісціна* гэта Бог! — заявіў ён з найбольшай павагай.

Пасля параіў мне прачытаць некалькі кніжак пра адраджэнне чалавека з дапамогай рэлігіі. Яго святы спісак уяўляў надзвычай выпадковую нізку аўтараў. З падобнай эйфарыяй як пра «Quo vadis» ён гаварыў пра раман нейкай Агафіі. Аўтарка праявіла сябе як празорліўца, якая нават прадбачыла ганебную канчыну Украіны. Народ загіне па сваёй віне. А чаму — бо ў яго няма мазгоў! Хто дурны пераможа Пуціна? Сам Воўка не здаецца так лёгка, будзе бараніць свой дом.

— Хай толькі маскаль *троне* маю жанчыну, — хлапец аўтаматам з пацыфіста пераракінуўся ў пана Валадыёўскага. — Заб’ю скаціну! Голымі рукамі задушу!

Хоць апошняе прызнанне было выказанае на паўсур’ёзнай ноце, я пачула мароз на спіне. Мае нервы гаварылі: ён не жартуе. Адчакаўшы некалькі хвілін, я спытала ў Воўкі, чым ён займаецца ў жыцці.

— Я, Марыя, мог бы стаць класным настаўнікам гісторыі, — пачаў з нейкім шкадаваннем Воўка.

— Пэўна, што так, — падтакнула я з чыстага шкадавання.

— А я — *прэступнік*.

— Цітушка?

— Да, канешна, цітушка*****. *Ты прасці меня, Марыя!*

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

* CD „Polesie — Pieśni i ludzie” — польска-амерыканскі праект, рэалізаваны Адукацыйным фондам для дэмакратыі, 2010 год.

** Том вершаў Тараса Шаўчэнкі «Кабзар» надрукаваны ў 1840 годзе, які з часам літаратурныя крытыкі палічылі пераломным для ўкраінскай літаратуры творам.

*** ГРУ — Галоўнае разведвальнае ўпраўленне Расійскай Федэрацыі.

**** ФСБ — Федэральная служба бяспечнасці РФ.

***** «Цітушка» — бандыт, прадажны злачынца. Прататыпам гэтага слова быў Вадзім Цітушка, які ў час святкавання Еўрапейскага дня ў 2013 годзе, на вачах журналістаў пабіў двух украінскіх журналістаў, а пасля быў апраўданы рэжымным судом. Слова набыло распаўсюд у час апошняга Еўрамайдана, дзе «цітушкамі» сталі клікаць маладых асілкаў, нанятых дзеля збівання ўдзельнікаў мірнага пратэсту. У народзе ходзяць чуткі, што сам Вадзім Цітушка быццам не перанёс здзеку над прозвішчам, пакаяўся ў граху і ў пачатку 2014 года перайшоў змагацца на бок Еўрамайдана.

ISSN 0546-1960